


# Рэгіянальная газета

27 снежня 2013 года
№ 52 (974)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

# З Новым годам!

**навіны рэгёна**

## Як будзе працаваць чыгунка на святы

**МАЛАДЗЕЧНА.** У перыяд калядных і навагодніх святаў будзе зменены парадак курсіравання рэгіянальных ліній эканом-класа.

**На ўчастку Маладзечна-Мінск.**

31 снежня, а таксама 4 студзеня – як па пятніцах.

1, 2, 5, 6, 7 студзеня – як па нядзелях.

3, 10, 11 студзеня – як па рабочых днях.

**На ўчастках Маладзечна-Ліда, Маладзечна-Гудагай, Маладзечна-Крулеўшчына.**

31 снежня і 3, 4, 10, 11 студзеня – як па рабочых днях.

1, 2, 5, 6, 7 студзеня – як па выхадных днях.

**Па інфармацыі станцыі Маладзечна.**

## Больш за 120 мільёнаў сабралі падчас дабрачыннага марафону

**ВІЛЕЙКА.** Завяршыўся дабрачынны марафон "Рабі вялікае, не чакаючы вялікага" ("РГ" пісала пра яго). Марафон прымеркавалі да Міжнароднага дня інвалідаў. Цягам месяца на прадпрыемствах і ў арганізацыях Вілейшчыны праходзіў збор сродкаў для аказання дапамогі інвалідам і іх сем'ям. У дабрачынным марафоне прынялі ўдзел 94 арганізацыі. Сабрана амаль 122 мільёны рублёў. Сродкі пайшлі на аказанне дапамогі інвалідам і іх сем'ям. Частку іх накіруюць на ўмацаванне базы аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў ТЦСАН і цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі.

## Выберы падарунак і стань Дзедам Марозам

**МЯДЗЕЛ.** У магазіне "Чароўнае дзяцінства" ў райцэнтры з панядзелка, 23 снежня, пачалася дабрачынная акцыя "Падары дабро – стань Дзедам Марозам". У магазіне дэманструюцца малюнкі з пажаданнямі да Дзеда Мароза. Намалявалі іх дзеці з абмежаванымі магчымасцямі і тыя, якія знаходзяцца ў сацыяльным прытулку Мядзела. Ахвотныя могуць выбраць малюнак, набыць падарунак і перадаць яго аўтару. Будзе доўжыцца акцыя да 29 снежня.

**Аддзел інфармацыі.**

Ювелирный салон «Золотая мечта»

Внимание! Акция!

Только с 1 декабря 2013 года по 7 января 2014 года при покупке изделий из золота на сумму более 1 млн. рублей вы получите возможность **выиграть автомобиль ТОЙОТА КОРОЛЛА**, а также дополнительные подарки и сюрпризы

**Все очень просто: купи, заполни анкету и выиграй НЕ УПУСТИ СВОЮ МЕЧТУ!**

*Сморгонь, магазин «Евроопт», салон «Золотая мечта»*

Тел. **(8-029) 327-58-14** ЧТУП «БелПромСеть». УНП 690635632 Св. № 2274 о госрегистрации рекламной игры, зарегистр. 27.11.2013 г. Министерством торговли РБ

# Новы год запомніцца спрашчэннем візаў?




Калаж "РГ".

Марыяне Суткене з Вільні адмовілі ў візе, а яе дачцэ – не. Сям'я з-за візаў не зможа сабрацца разам нават на Каляды.

**Мар'яна Суткене з Вільні мае беларускія карані. Але сустрэцца з вельмі блізкімі ёй бабуляй і дзядулем з Мінска яна не зможа: жанчыне адмовілі ў візе.**

Каб мне далі візу, бабуля павінна напісаць у натарыуса запрашэнне, – распавядае Мар'яна. – Уявіце, як гэта складана для чалавека ва ўзросце. Я папрасіла сябра з Мінска, каб ён завёз бабулю да натарыуса. Яе завезлі, напісала запрашэнне. У бабулі з дзядуляй слабое здароўе, у такім узросце сустрэча магла быць апошняй. І я папрасіла візу толькі на два дні, на Каляды. Заплаціла 25 еўра, а мне адмовілі без тлумачэння прычыны. Затое пасля іх смерці я змагу атрымліваць бясплатную візу два разы на год, каб ездзіць на могілкі.

**У Беларусі жыве каля 1,8 мільёна тых, хто можа ўвайсці ў 50-кіламетровую зону малога памежнага руху. На мяжы з Літвой іх 600 тысяч, з Польшчай – 1,1 мільёна і з Латвіяй – 80 тысяч чалавек.**

27-гадовая Мар'яна мае права два разы на год наведваць магілкі і другіх бабулі і дзядулі, якія пахаваныя на Смаргоншчыне. Але яны пайшлі з жыцця яшчэ да яе нараджэння, а да сваякоў, з якімі праводзіла ўсе лета ў дзяцінстве, яна патрапіць не можа з-за візаў.

Колькі сямей нашага рэгіёна не змогуць святкаваць Каляды і Новы год разам з-за візавага пытання, падлічыць складана. Для таго, каб беларусу паехаць да родных у Вільню ці іншую краіну Шэнгену, ён мусіць запісацца у консульстве, падаць дакументы і заплаціць 60 еўра. У візе могуць адмовіць, і грошы не вяртаюць. Жыхара Літвы ці іншай краіны чакае падобная працэдура, толькі аплата каштуе 25 еўра.

Многія з тых, каго з роднымі падзяляе мяжа, з надзеяй глядзяць у новы год: на саміце Усходняга партнёрства ў Вільні Беларусь аб'явіла аб сваім намеры пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму. Але гэта толькі вусная заява, і пакуль Беларусь не накіруе патрэбныя дакументы, працэс развівацца не будзе.

У новым годзе Беларусь будзе тэставаць бязвізавы рэжым: ад 25 красавіка ў Беларусь можна будзе прыехаць без візы, маючы білет на Чэмпіянат свету па хакеі.

## МЗС Літвы: штодзень мы выдаём тысячу віз беларусам

Сёлета за 11 месяцаў Літва выдала больш за 180 тысяч віз, што на 22% больш за леташні паказчык. Палова з іх доўгатэрміновыя, а каля 40% – бясплатныя. Найбольш Літва выдае віз менавіта беларусам, амаль каля тысячы штодзень.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Працяг на 2-й старонцы.**

# Новы год запомніцца спрашчэннем віз?




Міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкавічус.

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы*

Літоўскі бок ідзе насустрач культурніцкім, асветніцкім і спартыўным ініцыятывам, таму такія паездкі часта адбываюцца па бясплатнай візе.

– Мы не збіраемся з гэтага зарабляць, хаця цэны на візы, на мой погляд, залішне вялікія, – адзначыў міністр замежных спраў Літвы **Лінас Лінкавічус** на сустрэчы з беларускімі журналістамі 19 снежня.

Міністр ацаніў дынаміку візавага пытання станоўча. Літоўскі бок завяршыў усе неабходныя працэдуры для спрашчэння візавага рэжыму не адзін год таму, заўваг ад беларусаў не паступала. Чаму пытанне на столькі часу застыла ў паветры, незразумела.

– Хаця з віз і ідуць грошы ў бюджэт і можна зарабіць. За год да нас прыехала каля 400 тысяч турыстаў з Беларусі. Але я усё ж жадаў бы, каб мяжа як мага была адкрытай.

Можна ездзіць, вучыцца адзін у аднаго. Але мы больш нічога не можам зрабіць, калі толькі парушыць правіла Шэнгена, чым займацца не будзем.

Таксама Літва збіраецца пашыраць консульскую службу ў Беларусі ў парадку выключэння: у іншых краінах на гэта скарачаюць бюджэт.

### Некаторыя зарабляюць на візах

Падчас сустрэчы журналісты расказалі міністру пра тое, што некаторыя рэгіструюцца на падачу дакументаў у консульстве, а потым прадаюць сваю чаргу. Так і зарабляюць.

Лінас Лінкавічус пабяцаў звярнуць на гэта ўвагу. Электронную рэгістрацыю ён назваў вельмі зручнай, але, на яго думку, консул павінен мець дастаткова часу, каб прыняць рашэнне аб выдачы візы. Таму пазбегнуць чэргаў у амбасаду пры візавым рэжыме не атрымаецца.

### Што яшчэ зрабіць для памежжа?

Міністр замежных спраў Літвы звярнуў увагу, што літоўскі бок даўно завяршыў неабходныя працэдуры для пачатку малога памежнага руху, але беларусы маўчаць.

– Мы пыталіся, можа ёсць яшчэ штосьці, над чым мы мусім працаваць? Адказваюць, што ўсё у парадку, але пакуль яшчэ не гатовыя, – каментуе Лінкавічус.

Сітуацыя на мяжы таксама выклікае яго заклапочанасць.

– Тое, што адбываецца на мяжы – непрымальна! Чалавек павінен адчуваць сябе годна.

Для гэтага трэба паляпшаць інфраструктуру памежных пераходаў. І Беларусь, і Літва з гэтым згодныя. Засталося толькі зрабіць.

**З выступлення міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея на саміце ўсходняга партнёрства ў Вільні:**

– Мы хочам мець нармальныя палітычныя і гандлёва-эканамічныя стасункі з Еўрапейскім Саюзам. Я не выключаю, што ў будучыні можа ісці размова і пра нейкія больш цесныя стасункі з ЕС. Ведаеце, беларусы, мяркуючы па апытаннях грамадскай думкі, праведзеных еўрапейскімі даследніцкімі установамі, адчуваюць сябе больш еўрапейцамі, чым грамадзяне некаторых нашых суседніх краін. Яшчэ раз падкрэсліваю: павінен быць канструктыўны настрой з абодвух бакоў. Мы гатовыя да такога падыходу і лічым, што дыялог, канструктыўны падыход – гэта тыя асновы, на якіх павінны развівацца нашы адносіны з ЕС.

## Міфы пра візы

**Не ўсе нюансы візавай палітыкі зразумелыя шараговым людзям. Мы паспрабуем адказаць на самыя папулярныя пытанні.**

**Міф першы.** Увайсці ў Шэнгенскую прастору – гэта значыць, уступіць у Еўрасаюз.

Еўрасаюз – гэта эканамічнае і палітычнае аб'яднанне краін. Шэнгенскае пагадненне тычыцца пашпартна-візавага кантролю паміж краінамі, якія падпісалі яго. Ісландыя, Нарвегія, Ліхтэнштэйн і Швейцарыя не ўступалі ў ЕС, але падпісалі Шэнгенскае пагадненне.

**Міф другі.** Калі не трэба будуць візы, усе беларусы з'едуць за мяжу.

Адкрытая мяжа дазваляе быць у прасторы Шэнгена да 90 дзён за паўгода. Калі чалавек перавысіць дазволены час, яго вернуць на Радзіму. Пазней ён будзе мець складанасці пры перасячэнні мяжы.

**Міф трэці.** Адкрытая мяжа падарве нашу эканоміку. Спрашчэнне візаў не азначае адвольнае перамяшчэнне тавараў. Іншая справа, што многія беларусы захочуць ездзіць на закупы ў літоўскія крамы, а з Літвы будзе цягнуць ездзіць за таннымі цыгарэтамі і палівам. Аднак на другім баку шаляў – падзеленыя сем'і. Тым больш, што на перамяшчэнне прадуктаў і іншых тавараў можна ўвесці пэўныя абмежаванні.

**Які закон рэгулюе візы: Візавы кодэкс ЕС уступіў у сілу 5 красавіка 2010 года. Ён прыняты еўрапарламентам і Саветам ЕС у чэрвені 2009 года, тычыцца консульстваў краін ЕС і вызначае агульную візавую палітыку.**

## Шлях да адмены візаў

Спрашчэнне рэжыму не значыць яго адмену, гэта адна з яго прыступак. Пэўныя крокі для вырашэння гэтага пытання павінны выканаць і Беларусь, і Еўропа. Мы маем узор нашых суседак Літвы і Польшчы, а таксама Балканскіх краін, якія прайшлі гэту працэдуру, і цяпер грамадзяне гэтых краін могуць свабодна ездзіць па краінах Шэнгенскай прасторы.

1. Першы крок – пачатак **перамоў** паміж Беларуссю і Еўрапейскай камісіяй. Гісторыя перамоў паміж Беларуссю і Літвой няпростая. Адразу як наша суседка ўступіла ў ЕС у 2004 годзе, яна тры гады не прымала ад нас прапанову пачаць перамовы.

У чэрвені 2011 года Еўракамісія накіравала Беларусі неабходныя дакументы для пачатку перамоў. Але з таго часу Беларусь ніяк не рэагавала на гэтую прапанову, аж да выступлення міністра замежных спраў Уладзіміра Макея 29 лістапада на саміце.

2. Вынікам перамоў з'яўляецца падпісанне дамовы аб візавай **фасілітацыі** (яе падпісалі Расія, Арменія, Малдова і Украіна). Гэта дазволіць

- спрасціць выдачу віз
- дазволіць выдаваць больш шматразовых віз
- дазволіць выдаваць бясплатна візы для пэўных катэгорый (дзяцей, навукоўцаў, студэнтаў)
- віза будзе каштаваць не 60, а 35 еўра.

3. Наступная дамова – аб **рэадмісіі**. Гэтая дамова азначае, што краіна за свае грошы будзе вяртаць незаконных мігрантаў, калі іх знойдуць у краінах ЕС.

4. Пасля падпісваецца дамова аб візавай лібералізацыі. Калі Беларусь абвесціць, што жадае адмяніць візавы рэжым, Еўрапейская камісія прапануе план дзеянняў і паміж краінамі пачынаецца "візавы дыялог".

## Чэргі каля консульстваў – гэта прыніжэнне чалавечнасці

Пагадненні аб больш ліберальнай візавай палітыцы падпісвае ЕС з Малдовай, Грузіяй, Азербайджанам, а з Беларуссю такога не адбываецца.

– Мы як суседзі шмат губляем з-за гэтага, – мяркуе намеснік старшыні літоўскага сейма **Пятрас Аўштравічус**. – Суседзяў трэба бачыць не па тэлебачанні, а сустракацца з імі. Многіх літоўцаў цікавяць помнікі гісторыі ВКЛ, якія яны хацелі б пабачыць на сваё вочы. Гэта дае зусім іншае разуменне гісторыі. Асабіста мне было важна наведаць Ашмяны, Ліду. Род маёй мамы паходзіць з Лідчыны, Пастаў, Глыбокага. Гэтыя сувязі назаўсёды, гісторыя не раз'ядноўвае. Я вельмі хачу убачыць Крэва, Мір і Нясвіж. Беларусам таксама важна ўбачыць не толькі Вільню і "Акропаліс". Кожная нацыя імкнецца сябе ўзбагаціць, а не адсячы карані.

На пытанне аб чакаемых дзеяннях ад беларусаў у кірунку паляпшэння візавай сітуацыі віцэ-спікер літоўскага сейма Пятрас Аўштравічус сказаў:

– Наконт малога памежнага руху – гэта ратыфікацыя. Бо кожны дзень затрымкі тычыцца простых людзей. Гэта паўмільёна людзей, падзеленыя сем'і. Мы не чуем ніякіх аргументаў, чаму гэтага не робяць. Калі справа ў магутнасцях прапускных пунктаў – давайце будаваць новыя: гэта ж толькі грошы, а мы гаворым пра людзей, пра свабоду руху. Тыя чэргі каля консульстваў, якія я бачыў, – гэта прыніжэнне чалавечнасці.




Намеснік старшыні літоўскага сейма Пятрас Аўштравічус.

Пра гэта міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкавічус і віцэ-спікер літоўскага сейма Пятрас Аўштравічус распавялі 19 і 20 снежня падчас прэс-тура, арганізаванага кампаніяй "Без візы" ў межах праекта "У Беларусь і Еўропу – без візы!"

## Што дае малы памежны рух

Асобна ў візавай тэматыцы гучыць тэма малога памежнага руху. Калі спрашчэнне і адмена віз тычыцца ўсёй Беларусі, то МПР – толькі 50-кіламетровай тэрыторыі ад мяжы. У нашым рэгіёне ў яго зону трапляюць Астравецкі і Ашмянскі раёны.

Па пасведчанні жыхары памежжа Беларусі маглі б без візы ехаць у памежную тэрыторыю суседняй краіны. Памежны рух з Латвіяй пачаў дзейнічаць амаль два гады таму, і пераважна людзі ездзяць, каб пабачыць родных.

Літва паведаміла Беларусі 1 сакавіка 2012, што гатовая пачаць МПР, але далей справа не прасунулася.

У Калінінградскай вобласці Расіі дзейнічае МПР з Нарвегіяй і Польшчай, а Украіна мае з Польшчай, Славакіяй і Венгрыяй.

**Больш даведацца пра візавы рэжым і малы памежны рух вы можаце на сайце novisa.by кампаніі "Без візы".**



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

АКЦЫІ

# Дабрачынную ёлку зладзілі ў тэатры

**МАЛАДЗЕЧНА. Свята для дзяцей са шматдзетных сем'яў, для дзяцей-інвалідаў і для сямей, якія апынуліся ў сацыяльна-небяспечным становішчы, ужо не першы год ладзяць у Маладзечне творчыя калектывы тэатраў і тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**


Фота Наталлі ТУР.

Сапраўдную Бабу Ягу вылічылі хутка.

Сёлета з мясцовага бюджэту выдзеленыя сродкі на набыццё 1000 навагодніх падарункаў, – пра гэта распавяла **Людміла Душкевіч**, дырэктар цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

У гэты дзень у фае Мінскага абласнога драматычнага тэатра свята дзецям дарылі два вясёлыя скамарохі – Пятрушка ды Ватрушка. Ладзілі карагоды, дзе дзеці разам з бацькамі спявалі самыя-самыя навагоднія песні.

Усе, вядома, чакалі галоўнага героя свята – Дзеда Мароза. Калі ён, нарэшце, з'явіўся, захапленню дзяцей не было межаў. Але Дзед Мароз, нягледзячы на тое, што ён добры і казачны, усіх непаслухмяных дзетак мог і замарозіць сваім чароўным посахам.

Ды, як вы разумееце, не ўсё пайшло гладка. Баба Яга выкрала ўбор Снягурачкі і сама завітала на свята да дзяцей.

Толькі, як бывае ў любой казцы, дабро заўсёды перамагае зло. Замест адной Бабы Ягі, якую напужалі і прагналі дзеці разам з Дзедам Марозам, на свята завіталі Снягурачка і Папялушка. Дзве прыгажуні падарылі дзецям сапраўднае свята. Снягурачка гуляла з дзецьмі ў снежкі, праводзіла розныя эстафеты. А Дзед Мароз частаваў самых хуткіх, самых адважных дзетак цукеркамі і дарыў шмат падарункаў.

Папялушка, як самая галоўная прыгажуня свята, зладзіла свой уласны паказ мод. У ім прынялі ўдзел усе дзеці, якія завіталі на ранішнік у карнавальных касцюмах. Каго тут толькі не было! І Прынцэса, і Сняжынка, і Фея, і Ліса, і Прыгажуня з усходу, і Зора, і Мядзведзік! І ніхто з гэтых казачных герояў не пайшоў са свята без падарунка ад Дзеда Мароза.

А калі прыйшла чарга расказваць Дзеду Марозу вершы і спяваць песні, амаль усе дзеці акружылі Дзеда Мароза і Снягурачку.

Але, як і ўсё добрае, свята закончылася, Дзеду Марозу трэба было спяшацца да іншых дзетак, каб ніхто ў Новы год не застаўся без падарунка.

А Кацярына і Сафія, дзяўчынкі, што вучацца ў другім класе сярэдняй школы №9, па сакрэце сказалі, што яны не перажываюць, што Дзед Мароз вельмі хутка збег са свята, таму што яны ўжо напісалі яму ліст. Ён абавязкова прачытае і выканае іх мару.

А калі я запыталася, што яны папрасілі ў Дзеда Мароза, Кацярына адказала: "Гэта сакрэт. Пра яго ведае толькі Дзед Мароз, а то раптам хто падслухае і ўкрадзе сабе маё жаданне".

23 снежня два дабрачынныя ранішнікі адбудуцца ў тэатры "Батлейка", завершацца дабрачынныя ёлкі вялікім святочным і самым буйным і маштабным ранішнікам, які адбудзецца 24 снежня ў Палацы культуры.

**Наталля ТУР.**

| Курсы валют НБ РБ | 19.12 | 26.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 460,00 | 9 480,00 |
| Еўра | 13 030,00 | 12 980,00 |
| Злоты | 3 116,71 | 3 120,37 |
| Літ | 3 772,38 | 3 754,38 |
| Расійскі рубель | 287,50 | 290,50 |
| Грыўня | 1 142,51 | 1 155,03 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9470/9580 | 9500/9590 |
| Еўра | 13030/13150 | 12980/13120 |

| Цэны на рынку (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 18.12 | 24.12 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 110100 | 105900 |
| Сасіскі, 1 кг | 45050 | 49900 |
| Ялавічына, (выразка), 1 кг | 85000 | 85000 |
| Куранятя-бройлер, 1 кг | 24300 | 25000 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 25500 | 28000 |
| Селядзец, 1 кг | 32500 | 32000 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 89000 | 92000 |
| Рыс, 0,9 кг | 11500 | 7600 |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | 8000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 12000 | 14000 |
| Алей | 16000 | 16000 |
| Маянэз, 200 г | 5000 | 6000 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 7500 | 7500 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 28000 | 28000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10000 | 13600 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | 6000 |
| Капуста, 1 кг | 3500 | 3500 |
| Морква, 1 кг | 4500 | 4500 |
| Буракі, 1 кг | 4500 | 3500 |
| Лімоны, 1 кг | 16000 | 19500 |
| Апельсіны, 1 кг | 15000 | 15500 |
| Мандарыны, 1 кг | 16500 | 17500 |
| Памідоры, 1 кг | 17500 | 24500 |
| Агуркі, 1 кг | 26500 | 30000 |
| Перац, 1 кг | 25000 | 35000 |
| Вінаград, 1 кг | 20000 | 19500 |
| Бананы, 1 кг | 12000 | 12500 |
| Яблыкі, 1 кг | 8000 | 8000 |
| Грушы, 1 кг | 12000 | 18500 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 13000 | – |
| Масла, 1 кг | 80000 | – |
| Тварог, 1 кг | 40000 | – |
| Бульба, 1 кг | 4000 | – |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 20000 | – |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | – |

СВЯТА

# "Жалезная лэдзі" з Вілейкі

**ВІЛЕЙКА. У раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі стварылі незвычайную ёлку – металічную. Атрымала яна назву "Жалезная лэдзі".**

Зробленая ёлка з дроту, шасцярэнькаў, трансфарматараў ды іншых запчастак. Ёлку ўпрыгожылі бліскаўкамі, прымацавалі святлодыёдную стужку.

Ідэя стварэння такой ёлкі ўзнікла ў намесніка дырэктара цэнтра **Наталлі Рыжэвіч**.

Вырабілі ёлку навучэнка гуртка "Вясёлка" **Вераніка Мацясовіч** і **Андрэй Міхалёў** з гуртка "Авіямадэляванне".

На Андрэю быў тэхнічны бок вырабу: пад кіраўніцтвам метадыста **Анатоля Прыца** ён рабіў каркас, прымацоўваў дэталі. А Вераніка занялася ўпрыгожваннем ёлкі.

Старанне дзяцей адзначылі на абласным этапе рэспубліканскага конкурсу "Ёлка – як арт-аб'ект". У конкурсе ў двух намінацыях удзельнічалі каля сотні прац. "Жалезную лэдзі" адзначылі Дыпломам першай ступені ўпраўлення адукацыі аблвыканкама ў намінацыі "Сувенірная ТэхнаЁлка".

Ёлка з Вілейкі разам з лепшымі вырабамі з Мінскай вобласці накіраваная на выставу ў Рэспубліканскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота забяспечана Наталлі РЫЖЭВІЧ.

Ёлка "Жалезная лэдзі".

**ПЕРЕВОДЫ С/НА:**
**английского, испанского, итальянского, немецкого, польского и французского языков**, в том числе и для последующего нотариального заверения. Тел. **70-31-16**

**ОЦЕНКА ВСЕХ ВИДОВ ТРАНСПОРТНЫХ СРЕДСТВ И ИМУЩЕСТВА** (машин, оборудования и пр.), находящихся в государственной и негосударственной собственности.
Тел. **70-31-15, 75-35-74**
Молодечненский ф-л УП «Минское отделение БелТПП»
***г. Молодечно, ул. Буховщина, д. 60, корп.1, пом.54***
УНП 100144204

■ СЛУЖБА 101

# Вызвалілі рыбака, што праваліўся пад лёд


Фота Наталлі ТУР.

У ролі рыбака — прафесійны ратаўнік.

**МАЛАДЗЕЧНА. Такая легенда была ў вучэнняў, што прайшлі на возеры ў Насілаве 20 снежня.**

Акрамя таго, ратаўнікі-вадалазы папрактыкаваліся ў вызваленні кіроўцы аўтамабіля з ледзянога палону.

### У ледзяной вадзе можна знаходзіцца не больш за пяць хвілін

Тлумачэнне таму, што адбывалася ў Насілаве, даў начальнік пажарна-выратавальнага атрада Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Леанід Малашка:**

– Такія вучэнні маюць сезонны характар. З пачаткам зімы, калі на рэках, вадаёмах з'яўляецца лёд, небяспека няшчасных выпадкаў узрастае ў разы. Як правіла, пад лёд часцей за ўсё правальваюцца рыбакі або дзеці.

Сённяшняе мерапрыемства накіраванае на тое, каб у рэальных умовах паглядзець на гатоўнасць ратаўнікоў да такіх выпадкаў, паглядзець, як спрацуюць вадалазы не толькі на вадзе, але і пад вадой, калі слупок тэрмометра будзе ніжэй за нуль. Вынікамі вучэнняў я задаволены, усё атрымалася, як было запланавана.

На жаль, актуальнасці такая работа ратаўнікоў не губляе. З пачатку зімы на вадаёмах рэспублікі ўжо загінула сем чалавек, сярод іх – трое дзяцей.

Паводзіны некаторых людзей на вадзе, мякка кажучы, здзіўляюць. У мінулым годзе ў Гродзенскай вобласці быў выпадак, калі мужчыны на грузавым аўтамабілі МАЗ праз раку накіраваліся ў бліжэйшую краму. Вынік такой вандроўкі – гібель кіроўцы аўтамабіля.

**– Сённяшняя сітуацыя была спраектаваная, а колькі часу ў чалавека ў рэальным жыцці дачакацца дапамогі?**

– У рэальнасці, у ледзяной вадзе чалавек можа пратрымацца 3-5 хвілін. І, часцей за ўсё, гіне ад пераахаладжэння.

**– Наколькі бяспечна выходзіць на лёд узімку? Ці ёсць магчымасць вызначыць, што сёння можна, а заўтра нельга?**

– Лічыцца, што чалавека можа вытрымаць лёд, які мае таўшчыню пяць сантыметраў, групу людзей – 7-9 сантыметраў, механічны сродак ( легкавы аўтамабіль) будзе трымацца на лёдзе ў 26 сантыметраў.

### Не выходзячы з машыны

У пятніцу на возеры ў Насілаве лёд быў таўшчынёй 2-3 сантыметры, але мясцовых рыбакоў гэта не палохала. Яны вудзілі рыбу акурат на вачах у ратаўнікоў. За што былі строга папярэджаныя прадстаўнікамі МНС.

У гэты дзень давялося пачуць шмат гісторый, якія проста здзіўляюць тым, наколькі дарослыя людзі могуць быць неабачлівымі.

Намеснік начальніка пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Сяргей Яўсеенка** прыгадаў такі выпадак:

– Некалькі год таму падчас рэйду па вадаёмах мы заўважылі, што пасярэдзіне возера стаіць машына "Запарожац". Калі мы, ратаўнікі, падышлі бліжэй і пастукаліся ў шыбу, дзверы аўтамабіля знутры адчыніў кіроўца-рыбак. У машыне не было крэслаў, акрамя крэсла вадзіцеля, пасярэдзіне салона, у дне, была праробленая дзірка памерам з лунку. Так, седзячы ў цяпле, грэючыся ад аўтамабільнай печкі, рыбак вудзіў рыбу праз лунку, нават не выходзячы з аўтамабіля. Што гэта: азарт ці вар'яцтва?

### Жывых людзей мы не ратуем

Сапраўднымі героямі дня выглядалі хлопцы з вадалазна-выратавальнай службы.

Гэта яны, рызыкуючы сабой, апускаліся пад ваду, каб паказаць усім прысутным, як гэта вызваляць чалавека з-пад лёду. Але трэба сказаць, што замест чалавека быў манекен. Надта небяспечна спадзявацца на шчаслівы выпадак, калі гаворка ідзе пра лёд, халодную ваду і патанулы аўтамабіль.


Фота Наталлі ТУР.

Вадалаз Павел Стужынскі.

Вадалаз **Павел Стужынскі** гаворыць, што ў вадалазы па прымусе не ідуць, толькі па вялікай любові.

– Беларусь хоць і не марская дзяржава, але мяне, чамусьці, вада прываблівае.

**– Ці здараліся ў рэальным вашым жыцці выпадкі, якія сёння разглядаліся падчас вучэнняў?**

– Наступстваў ДТЗ з удзелам машыны, якая правалілася пад лёд, у маёй практыцы не было. Часцей за ўсё, праца вадалазаў – гэта падводна-тэхнічныя работы, здараецца, што тапельцаў дастаём, жывёл, якія самі не могуць выбрацца з вады.

**– А ці многа чалавек удаецца выратаваць?**

– Яшчэ ні аднаго. Наш атрад знаходзіцца не на акваторыях, нас выклікаюць даставаць з вады ўжо загінулых людзей.

**Наталля ТУР.**

■ ПРАКУРАТУРА, СУД

# Прысабечыў 200 мільёнаў

**АСТРАВЕЦ. Жыхар вёскі Варняны пачаў працаваць на свінагадоўчым комплексе СВК "Варняны" як кіраўнік вытворча-гаспадарчай дзейнасці ў 2010 годзе. Аднак ужо праз год ён злоўжываў сваімі службовымі паўнамоцтвамі.**

Без удзелу прадстаўніка бухгалтарскай ці эканамічнай службы, які праводзіць такія здзелкі, без дазволу старшыні СВК "Варняны" ад 30 сакавіка да 26 кастрычніка 2011 года прадаваў індывідуальнаму прадпрымальніку са свінагадоўчага комплексу свіней, не выпісваючы прыходна-касавых ордэраў на паступленне грошай.

Такім чынам ён паспеў прадаць 92 свінні на агульную суму больш за 200 мільёнаў рублёў. Гэтыя грошы пайшлі яму ў кішэню.

Ён жа ў маі 2012 года гэтак жа прадаў жыхару Астраўца яшчэ адну свінню.

Абвінавачаны прызнаў віну цалкам. Ён раскайваецца і падчас следства пакрыў усю шкоду.

### Паказанні сведак

Індывідуальны прадпрымальнік, якому абвінавачаны прадаў свіней больш чым на 200 мільёнаў рублёў, займаецца скупкай свініны ў насельніцтва і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Потым ён іх перапрадае на рынку.

Кожны раз перад тым, як прыехаць за свініяй на свінагадоўчы комплекс СВК "Варняны", ён званіў на мабільны загадчыку комплексу (абвінавачанаму) і пытаўся, ці можна прыехаць. Калі прыязджаў, загадчык узважваў свіней і прадаваў іх. Пры гэтым заўсёды была тэхнолаг свінакомплексу, якая выпісвала патрабаванні-накладныя, у якіх былі ўказаныя колькасць свіней, іх вага, цана за кілаграм, агульная сума грошай, якую трэба заплаціць.

Са слоў сведкі, ён перадаваў грошы тэхнолагу. У большасці выпадкаў пры гэтым прысутнічала жонка абвінавачанага, якая прымала ўдзел у пераліку грошай.

Пасля гэтага індывідуальны прадпрымальнік і загадчык свінакомплексу на адваротным баку патрабавання-накладной распісваліся і першы экзэмпляр перадавалі прадпрымальніку. Потым ён забіраў набытых свіней і з'язджаў.

Другі сведка, жыхар Астраўца, перыядычна, раз на год, набываў адну-дзве свінні для сябе. У 2012 годзе хтосьці са знаёмых яму параіў звярнуцца на свінакомплекс СВК "Варняны". У маі ён туды пад'ехаў, яму паказалі начальніка, з якім ён дамовіўся набыць свінню. Абвінавачаны ў той жа дзень і прадаў яму свінню.

Трэці сведка, загадчык фермы адкорму, сказаў, што патрабаванне-накладную ў апошнім выпадку выпісваў ён. Першы экзэмпляр перадаў пакупніку, другі – абвінавачанаму. Апошні загадаў свайму падначаленаму нідзе ў справаздачах не ўказваць продаж гэтай свінні. Выконваючы загад, загадчык фермы адкорму склаў акт на выбыццё жывёлы, як загінулай.

Паводле слоў вартаўнікоў, у вартоўні быў толькі адзін журнал, у якім кожны рабіў запіс, што ён выйшаў на працу. Больш ніякіх журналаў не было, і ўвесь транспарт яны нікуды не запісвалі. Такі парадак устанавіў абвінавачаны, і старонні транспарт запускалі на тэрыторыю комплексу толькі з яго дазволу. А калі кіраўніка свінагадоўчага комплексу не было, з дазволу яго жонкі.

Тэхнолаг свінакомплексу працуе ўжо цягам дзесяці гадоў. Калі індывідуальны прадпрымальнік набываў свіней, то яна разам з кіраўніком комплексу выганялі свіней з секцый і грузілі іх у аўтамабіль. У вартоўні яна складала патрабаванні-накладныя. Потым пералічвала грошы і разам з копіяй патрабавання-накладной і заявай прадпрымальніка перадавала асабіста ў рукі загадчыку свінагадоўчага комплексу. Яна меркавала, што грошы ён як кіраўнік сам адвозіць у бухгалтэрыю. Жанчына ўсё рабіла па загаду кіраўніка свінагадоўчага комплексу і не паведамляла пра парушэнні кіраўніцтву СВК, бо баялася, што яе звольняць. Па загадзе абвінавачанага, прададзеных свіней яна спісвала, складаючы фіктыўныя акты на выбыццё жывёл.

### Суд прыгаварыў

Абвінавачанага суд прыгаварыў да пяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з арганізацыйна-распарадчымі функцыямі на пяць гадоў.

Назначанае асноўнае пакаранне абвінавачанаму адтэрмінавалі на тры гады, бо ён пакрыў усю шкоду яшчэ падчас следства.

### Пра асобу абвінавачанага

Абвінавачанаму жыхару вёскі Варняны 29 гадоў. Ён мае вышэйшую адукацыю, жанаты, цяпер не працуе.

Выхоўвае непаўнагадовую дачку.

**Аляксандр ЛЯНКЕВІЧ,**
**старшы памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

# Які ваш самы запамінальны Новы год?

**Андрэй Дударчык, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі:**



– Запомнілася святкаванне мінулага Новага года. Убачыў тады, што дачка намаганнямі бацькоў дагэтуль верыла, што Дзед Мароз існуе на самой справе. І было вельмі прыемна.

Дачка ўвесь год марыла пра смартфон і чакала яго ў падарунак. Але ж падобны падарунак быў і для жонкі.

У нас ёсць некалькі сямейных традыцый, звязаных з Новым годам. Падарункі дорым так: заўсёды падпільноўваем момант, калі хтосьці на хвілінку выскачыць з пакоя. А тады ўжо хуценька кладзём яго пад ёлку.

Калі жонка на хвілінку адлучылася на кухню, паклаў ёй пад ёлку падарунак. Вярнулася. Кажу: "Паглядзі, што там пад ялінкай". Яна раскрывае падарунак, а там смартфон. Для жонкі гэта было нечакана. Але больш за ўсё мяне здзівіла рэакцыя дачкі. Яна была разгубленая і аж заплакала: "Дзед Мароз пераблытаў. Гэта павінен быць мой падарунак!". Давялося супакойваць. Удалося выбраць момант, каб пакласці пад ёлку і ёй падарунак. Кажу: "Ведаеш, дачушка, ты ж таксама паглядзі пад ёлку. Можа, там два падарункі...". Знайшла і яна смартфон.

Хачу пажадаць усім: калі ў вас пакуль няма ніякіх сямейных традыцый, не засмучайцеся, пачніце іх ствараць самі.

**Яна Гуліцкая, бібліятэкарка:**



– Запамінальнае свята было ў той Новы год, калі толькі пабудавалі Нацыянальную бібліятэку ў Мінску. І мы ўсе са сваякамі сустрэлі Новы год ля бібліятэкі, з шампанскім, феерверкам.

І з таго часу кожны Новы год сустракаем там.

**Марыя Узгорак, інспектар па кадрах:**



– Гэта гісторыя адбылася, калі вучылася ў 9-м класе. Раніцай 31 снежня цётка мяне адправіла ў суседнюю вёску забраць прадукты. Пасадзілі на калгасны аўтобус. Як потым аказалася, не на той: ён прывёз мяне ў Вілейку. А яшчэ кіроўца ці то ў жарт, ці ў сур'ёз казаў, што вярнуся ў вёску толькі раніцай.

Грошай на білет на аўтобус не было: я ж толькі забраць прадукты ехала. Так што давялося чакаць іншага транспарту, які ў вёску пойдзе. І я, з бігудзі на галаве, з дзесяці раніцы да сямі вечара праседзела ў Вілейцы. Усё ж дачакалася машыну.

А ў клубе на Новы год я была Снягуркай. І кіроўца, які вёз мяне дадому, хваліўся: "Гэта я вам Снягурку даставіў".

**Вольга Шляпо, намеснік дырэктара Палаца культуры:**



– Запомніўся той Новы год, калі з будучым мужам паехалі знаёміцца з маімі бацькамі. Надыходзіў 2000 год. Прыехалі раніцай на вакзал у Рэчыцу. Якраз столькі снегу навалілі. Адмянілі шмат рэйсаў, у тым ліку і наш. А да вёскі 40 кіламетраў.

Вырашылі дабірацца іншым аўтобусам. Ён не заязджаў у вёску, а спыняўся на дарозе. Адтуль заставалася ісці чатыры кіламетры. Прыехалі, а тут такія сумёты – давялося ісці амаль паўзком.

Дадому мы дабраліся толькі ў чатыры гадзіны дня. Бацькі, госці ўжо хваляваліся: а тут уваходзім мы – замерзлыя, у абледзянелым адзенні. А яшчэ ў лесе сумка наша парвалася: згубілі падарункі, шампанскае. Камусьці потым быў добры сюрпрыз.

**Алеся Высоцкая, дырэктар Палаца культуры:**



– Адразу прыгадаўся той год, калі мне споўнілася 18. У гэты Новы год мая бабуля Тася з Рабуні наладзіла свята для ўнукаў.

Першае, што мы ўбачылі ў хаце, гэта вазы з галінкамі ёлкі, на якіх былі шышкі. Яны так цудоўна пахлі!

У зале стаяла ёлка – вядома ж, натуральная, вялікая: бабуля адмыслова падбірала. Ёлку ўпрыгожвалі цацкі з таго часу, як яна была маленькая: лялечкі, морквачкі, размаляваныя драўляныя шары. І гірлянда была ранейшая. А яшчэ бабуля спякла хрушчы – і цямнейшыя, і святлейшыя – і павесіла на ёлку.

Сказала, што мы павінны выбраць сабе з ёлкі тое, што спадабалася. Кожны выбраў сабе падарунак. А яна: "Цяпер я вам раскажу, што гэта значыць" – гэтак рабілі, калі яна была маленькая. Напрыклад, калі выбраў нешта спечанае – будзеш гаспадыняй добрай, ці (калі гэта хлопец) жонку знойдзеш гаспадарлівую. Калі шар – то жэнішся ці замуж выйдзеш. Калі ўзяў цукерку, то год будзе для яго салодкі, без праблем.

Бабуля праспявала адну песню. Там не было ніводнага слова пра Новы год, але ўсё пра зіму – песня вельмі прыгожая, падобная на калыханку.

І калі мы пабеглі на кухню, яна сказала: "Стоп! Гэта ж Новы год, і ці будзем вакол ёлкі". Прынеслі стол. Яна сарвала галінку з ёлкі, расцерла ў далонях – і мы ўсе так зрабілі.

Селі за святочную вячэру. Нейкіх асаблівых страў не было. Але хлеб, які бабуля спякла, яна ўпрыгожыла выявай ёлкі. Апроч яе, дарослых за сталом не было – толькі ўнукі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**
**Фота аўтара.**

ОБВАЛ ЦЕН
РАСПРОДАЖА ТЕЛЕФОНОВ
Ждём вас в центре обслуживания velcom
по адресу: г. Вилейка, ул.17-го сентября, 32
И ЗАВТРА БУДЕТ ТВОИМ
velcom
условия акции на velcom.by и по телефону 411
Акция действует до момента продажи последнего телефона
ИП «Велком» УНП 101528843

www.almi.su




СЕТЬ МАГАЗИНОВ

УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136
ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28


**16900** ~~19450~~
Ананас 1кг Коста-Рика


**2200** ~~2550~~
Продукт йогуртный Альпенгурт жир.0.1% 100г РФ В ассортименте


только в универсаме
**4700** ~~5650~~
Десерт Чудо жир.4-2.2% 100-115г РФ В ассортименте


**21500** ~~25800~~
Торт-мороженое Гоша 500г РБ


**11500** ~~14400~~
Спред Масляная коровка жир.50% 500г РБ


**42900** ~~49350~~
Колбаса вареная Докторская Ароматная в/с 1кг РБ


**74900** ~~89900~~
Ковалочек к/в по-Волковысски Новый 1кг РБ


**31900** ~~39900~~
Корейка свиная Грейсингер с/в 100г Германия


**101900** ~~127400~~
Колбаса с/к Австрийская Премиум в/с 1кг РБ


**69900** ~~83900~~
Колбаса в/к Сервелат Рублевский Люкс в/с 1кг РБ


**39900** ~~47900~~
Голец с/м 1кг РФ


только в универсаме
**94900** ~~118650~~
Лосось сл/с 1кг РБ


только в универсаме
**97900** ~~124900~~
Икра горбуши зернистая Тихоокеанская 130г РФ


**55900** ~~72700~~
Горбуша подкопченая Спинка Двинская 1кг РБ


**7200** ~~8650~~
Крабовое мясо Душа океана 200г РФ


**9950** ~~11450~~
Шпроты в масле За Родину 160г РБ


**7500** ~~9000~~
Горошек зеленый Вис 425г Молдова


**7900** ~~9500~~
Кукуруза сладкая Овощное меню 420г Украина


**8900** ~~11150~~
Оливки/Маслины б/к Сунан 280г Турция


**8500** ~~10650~~
Фасоль в томатном соусе Овощное меню 410г Украина


**11900** ~~14300~~
Огурцы маринованные Овощное меню 680г Украина


**8500** ~~9800~~
Майонез Слобода жир.67% 400мл РФ Провансаль/Оливковый


**12500** ~~14400~~
Масло подсолнечное Кристаллина 1л РФ


**6900** ~~8300~~
Рис Колумб 800г РБ


**6500** ~~8150~~
Смесь Магги На второе РФ Сочный цыпленок табака 47г/ Для куриных наггетсов 63г


**7900** ~~9100~~
Нектар Натуралис 1л Молдова Яблоко/Яблоко-абрикос/Персик


**7900** ~~10300~~
Минеральная вода Ессентуки 4 1.5л РФ


**39900** ~~47400~~
Кофе растворимый Нескафе Голд 95г РФ


**14900** ~~19400~~
Чай черный в пирамидках Липтон 20шт*1.36-1.8г РФ Лесные ягоды/Тропические фрукты


**11500** ~~13800~~
Шоколад с цельными лесными орехами Рошен 100г Украина Экстрамолочный/Экстрачерный


**10900** ~~12600~~
Торт вафельный глазированный Старый замок 250г РФ Черничный/Ореховый


только в универсаме
**10900** ~~13100~~
Конфеты Шоколапки 200г Украина


**13400** ~~16750~~
Пирожное бисквитное с начинкой Фанни Банни 150г РФ Карамель/Шоколад


только в универсаме
**5500** ~~6600~~
Рулет бисквитный Яшкино 200г РФ Вишня/Вареная сгущенка/Черника/Клубника со сливками


**4600** ~~5750~~
Арахис жареный Бум 50г РБ Барбекю/Паприка/Сыр


**4900** ~~5650~~
Снэки Онега 75г РБ Пекинская утка/Лук-Сметана


**21900** ~~27400~~
Зубная паста Сплат 100мл РФ Биокальций/Ультракомплекс


только в универсаме
**15900** ~~19900~~
Дезодорант шариковый Камэй 50мл РФ В ассортименте


**12400** ~~14350~~
Пена для бритья Мэджикс 200мл Турция Динамик/Спорт/Престиж


**31900** ~~39900~~
Стиральный порошок Тайд Автомат 1.5кг РФ В ассортименте


**15500** ~~19400~~
Средство для мытья посуды Монинг Фреш 450мл Польша В ассортименте


**9500** ~~11900~~
Туалетная бумага Снежная Панда Классик 4шт Украина

Зачеркнутая цена является средней по магазинам сети АЛМИ до начала акции. Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 25 ДЕКАБРЯ 2013 ГОДА**

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624


товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136


товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136



НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Пад Новы год



Фота status4ka.am.

Furthermore:

Рознае бывае ў жыцці, і гора, і шчасце заўсёды ідуць побач.

**Даўно гэты было, але якраз перад Новым годам. Сяргей, яго жонка Каця і іх дачушка паехалі ў вёску да маці.**

Насцячка вельмі любіла бабулю, ды і тая, як кажуць, душы не чула ад сваёй адзінай унучачкі. Канікулы пачыналіся, а дзе дзець дзіця, калі бацькам на працу трэба.

Сядзяць яны ўсе ў бабулі, вядуць няхітрую гаворку, як раптам суседсябрук з бутэлькай заходзіць. Ім трэба ўжо і ехаць, зімой жа рана цямнее, а той прапаноўвае выпіць – то за сяброўства тост падымае, то за Новы год. Ніяк ад яго адкараскацца не могуць.

Нарэшце развіталіся. Хуценька пакідалі манаткі ў машыну і паехалі. За рулём, вядома, была Каця. Яна чамусьці так не хацела садзіцца за руль, але хто ж будзе кіраваць, калі так выйшла.

Вынік сумны быў ад той паездкі. Сяргей ачнуўся ў рэанімацыі, а Каця загінула. Ён праклінаў сябе, сябра, не мог уявіць, як далей жыць будзе.

Сяргей панура хадзіў па вуліцы, з тупым позіркам разглядаў людзей, якія, бы тыя мурашкі, бегалі, мітусіліся, смяяліся, віншавалі адзін аднаго. І чаму яны так радуюцца, калі ў мяне на душы так горка, так прыкра. Увогуле пасля ненавідзеў кожны Новы год, бо нагадваў яму пра самае страшнае ў яго жыцці. Хацеў, каб ніколі не надыходзіў.

Праз колькі год, таксама перад Новым годам, вывеў яго з гэтага тупіка іншы сябар, з якім разам і працавалі ў міліцыі. Прыбег ён аднойчы да яго і кажа: "Дружа, табе ўсё роўна, а ў мяне наклёўваецца вялікі сабантуй. Выручай!"

Сяргей з неахвотай, але пагадзіўся. Сеў ён у свой старэнькі міліцэйскі козлік і паехаў. Спачатку – па галоўных дарогах, а затым і на малыя ўчасткі-дарогі завярнуў.

Едзе Сяргей, машына шуміць, ажно на сон хіліць. Але што гэта? Раптам фары высвецілі пасярод дарогі нейкую постаць. Сон як рукой зняло. Суцішыў ход, спыніўся, выйшаў з машыны.

Аказалася, маладзіца вяла, правільней будзе сказаць, валакла малога хлопчыка, а той упіраўся, не хацеў ісці.

– Што здарылася, куды вы ідзяце ў такую цемень?

Жанчына сумелася, адпусціла малога і адказала:

– Ды вось прывезла дзяцей на канікулы да бабулі. Дачка з радасцю засталася, а яго ніяк не ўгаварылі, не далі рады. Як жа ён на Новы год застанецца без свайго сябрука Дзімкі. Пакуль валакіціліся з ім, на апошні рэйс спазніліся, а цяпер да бабулі ісці не хоча. А мне ж заўтра на працу.

– Ну, тады садзіцеся да мяне, я давязу вас да горада.

Ехалі моўчкі. Малы супакоіўся на руках у маці і заснуў. Жанчына заплюшчыла вочы, відаць, драмала. Так амаль і даехалі да горада. І раптам Сяргей спытаўся:

– А чаму ж вам гаспадар не дапамог, усё ж лягчэй было б?

– Ды няма яго ў нас, адны жывём. Як такі гаспадар, то лепш ніякі, адна падыму дзяцей.

Сяргей яшчэ папытаўся, дзе яна працуе, дзе жывуць. А калі тая назвала адрас, то адразу захваляваўся:

– Ой, дык вы ж недалёка ад нас жывяце. А ў які клас ходзіць ваша дачушка? У трэці! Дык і мая ж у трэці. Можа, яны і знаёмыя між сабой.

Сяргей з цікавасцю зірнуў на сваю спадарожніцу яшчэ раз і адзначыў пра сябе, што яна прыгожая. Доўгія русыя валасы рассыпаліся па каўняры футра, вейкі пушыстыя, а на шчацэ – маленькая цёмная радзімка.

Сяргею стала нейк лёгка, лёгка. На хвіліну ён забыўся пра сваю даўнюю бяду.

– Ну вось і прыехалі. Не будзіце малога, хай спіць. Я яго занясу ў кватэру.

Хлопчыку было ўсё роўна, хто яго нясе і куды. Але калі расплюшчыў вочы, то моцна закрычаў.

Жанчына тут жа пачала супакойваць яго і расказваць смешную гісторыю.

– Гэта ж я сама вінаватая, што ён баіцца міліцыянераў. Бо аднаго разу да нас завітаў сваяк, быў ён на вялікім падпітку і яшчэ прасіў гарэлкі. Я не дала, сказала, што няма. А малы пайшоў на кухню, дастаў з шафкі бутэльку, прынёс і кажа: "Мама, гарэлка ж ёсць". Я так раззлавалася, не ведала, што і рабіць. А потым кажу яму: "Калі ты скажаш каму, што ў нас ёсць гарэлка, я аддам цябе міліцыянеру". З таго часу, як убачыць чалавека ў форме міліцыянера, нясецца дамоў без аглядкі.

Сяргей стаў з дазволу гаспадыні часта заходзіць у госці і адзін, і з дачушкай. Дзяўчынкі пасябравалі між сабой, узялі шэфства над малым. А праз нейкі час ён папрасіў рукі ў сваёй спадарожніцы.

**Галіна БУРКЕВІЧ, вёска Ілья.**

КАЛЯНДАР

**27 снежня.** 90 гадоў з дня нараджэння Анатоля Вялюгіна (1923 – 1994), паэта, кінасцэнарыста, перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Па яго сцэнарыях пастаўлены мастацкія тэлефільмы і 40 дакументальных фільмаў, сярод іх "Таямніца Івянецкай пушчы" (1970).

***

**28 снежня.** 105 гадоў з дня заснавання (1908) беларускага кнігавыдавецкага таварыства "Наша хата" ў Вільні (існавала да 1911 года).

***

**29 снежня.** 100 гадоў з дня нараджэння Зінаіды Васільевай (1913 – 1999), беларускай і рускай балерыны, педагога, народнай артысткі Беларусі. Стварыла на беларускай сцэне вобразы Ванды ("Салавей"), Адэты–Адыліі ("Лебядзінае возера"), Марыі ("Бахчысарайскі фантан"), інш.

***

**30 снежня.** 95 гадоў назад (1918) адкрылася VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) у Смаленску, абвясціўшая сябе I з'ездам кампартыі Беларусі. З'езд прыняў рашэнне аб абвяшчэнні Беларускай ССР і стварэнні кампартыі, вызначыў адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел рэспублікі.

***

**55 гадоў** назад (1958) ЦК КПБ прыняў пастанову "Аб увекавечанні памятных месцаў баёў Савецкай Арміі і партызанаў Беларусі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, месцаў пахаванняў савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў вайне 1941 – 1945 гг.".

***

**1 студзеня.** Новы год.

***

**105 гадоў** з дня нараджэння Сцяпана Андруховіча (1909 – 1989), беларускага жывапісца. Быў знаёмы з Янкам Купалам, часта бываў у яго ў гасцях і выканаў шэраг партрэтаў паэта, якія захоўваюцца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Найбольш вядомая карціна на купалаўскую тэму – "Янка Купала з маці" ( 1951 г.). На карціне Янка Купала са сваёй маці Б.І.Луцэвіч каля дома ў Мінску, дзе паэт жыў у 1926 – 1941 гадах.

***

**95 гадоў** з часу стварэння (1919) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Апублікаванне Маніфеста Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі аб абвяшчэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ЗДАРЭННІ

## Прадаў чужы марскі кантэйнер

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пра тое, як скралі ёмістасць даўжынёй 10 метраў, распавёў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч.**

Марскія кантэйнеры выкарыстоўваюць для грузаперавозак, у тым ліку па чыгунцы. Гэта вялікая металічная будка даўжынёй 10 метраў, а шырынёй і вышынёй – па тры.

Такі кантэйнер 26-гадовы гаспадар пакінуў на час каля станцыі тэхабслугоўвання ў Вязынцы.

Праз некаторы час гаспадар убачыў, што кантэйнер знік.

Падчас праверкі высветлілася, што мясцовы 19-гадовы хлопец знайшоў пакупніка, прадаў яму кантэйнер, і той яго вывез.

Паводле слоў гаспадара, кантэйнер каштуе каля 34 мільёнаў рублёў.

Крымінальную справу ўзбудзілі 20 снежня.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Перавозіў манеты, прыхапіўшы 11 літраў алкаголю

**АШМЯНЫ.** Сапраўдны скарб знайшлі мытнікі і пагранічнікі.

У легкавым аўтамабілі, які ехаў у Беларусь 19 снежня з мінскімі нумарамі, заўважылі нязвыклы элемент. У багажніку накрыўка аддзялення для асабістых рэчаў прыкручаная шрубамі, не прадугледжанымі канструкцыяй аўтамабіля.

У гэтай нішы знайшлі 866 сярэбраных манет коштам 280 мільёнаў. У дарожнай сумцы знайшлі тры літры гарэлкі, два літры віскі і шэсць піва, якія каштуюць 1,2 мільёна рублёў.

## Канфіскавалі гераін, італьянскую мэблю і берушы

**АШМЯНЫ.** Тавары на два з паловай мільярды рублёў спрабавалі правезці праз мяжу.

18 снежня мытнікі знайшлі ў боксе надгляду ў скрыні з пяском тры скруткі. Іх вывозіў з Беларусі жыхар Кыргызстана. Аказалася, што ў скрутках 2,5 кілаграма гераіну. Ён правозіў рэчыва ў кабіне грузавіка, але спалохаўся надгляду і выкінуў наркотыкі ў скрыню з пяском каля машыны.

У гэты ж дзень ашмянскія мытнікі спынілі грузавік "Сканія", які ехаў з Італіі. Кіроўца перавозіў мэблю і тавары для дому. Але высветлілі, што ён правозіў і незаяўленыя ў камерцыйных дакументах рэчы: дзіцячую мэблю, ложкі, сталы. Агулам 84 найменні італьянскай мэблі, папярэдне ацэненай на 2,2 мільярда рублёў

У аўтамабілі "Вольва" знайшлі незадэклараваныя 44 тысячы берушаў на 208 мільёнаў рублёў.

**Паводле прэс-службы Ашмянскай мытні.**

РЫБАКАМ

## Забарона на лоўлю ментуза ўстанаўліваецца з 25 снежня

**РЭГІЁН. Каб павялічыць папуляцыю ментуза ў рэках і азёрах, штогод з 25 снежня і да 28 лютага ўстанаўліваецца забарона на яго лоўлю.**

Нерастуе гэта рыба з канца снежня да лютага, калі тэмпература вады пад лёдам складае адзін-тры градусы, патлумачыў дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Уладзімір Хіла**.

У перыяд забароны павялічваюцца штрафныя санкцыі. Акрамя штрафу давядзецца кампенсаваць шкоду, нанесеную рыбным багаццям. Кожны злоўлены мянтуз, незалежна ад памеру, абыдзецца парушальніку ў дзевяць базавых велічынь за адну асобіну.



Фота 21.by.

Лавіць ментуза забараняецца да 28 лютага.

**Аддзел інфармацыі.**





# Калядны настрой у Вільні




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Паводле сусветнай навіннай сеткі CNN, ёлка ў Вільні на Ратушнай плошчы сёлета ўвайшла ў лік найпрыгажэйшых. Яна зробленая, як і маладзечанская,– на металічным каркасе трымаюцца жывыя ёлкі. Сярод літоўцаў была незадаволенасць. Некаторыя лічылі, што такое багатае навагодняе дрэва не па кашальку Літве сёння. А іншыя мяркуюць, што прырода не падарыла снегу, таму вечаровая ілюмінацыя – выдатная кампенсацыя для святочнага настрою.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Віленчукам даспадобы бюджэтныя ёлкі, зробленыя сваімі рукамі. У калядны час яны ёсць каля многіх крам і кафэ, і кожная з іх запамінаецца наведнікам. Гэта ёлка зробленая з расфарбаваных кардонных трубачак, унутры якіх мішура. А побач на падстаўцы прымацаваны вялікі аркуш паперы, дзе любы можа пакінуць навагоднія пажаданні і замалёўкі, напрыклад, снегавіка дагары нагамі.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Яшчэ адна эфектная ёлка сваімі рукамі. Галінкі злучылі паміж сабой і ўпрыгожылі. Проста і запамінальна.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Калі дарослыя чакаюць ад Новага года чароўнасці, то якія ж эмоцыі ў дзяцей! Для іх Каляды – дзверы ў казку, якія могуць адчыніць толькі дарослыя.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Нават складзеныя ў форме ёлкі цацкі ці цукеркі – дастатковы мінімум, які падорыць святочную атмасферу.

АДПАЧЫНАК

## Новы год на Нарачы: больш расіян, чым беларусаў

**МЯДЗЕЛ. Ці карыстаюцца папулярнасцю прапановы сустрэць Новы год на Нарачы?**

Тэлефаную ў санаторый "Прыазёрны" (разлічаны ён на 440 месцаў).

– Прадаваць навагоднія туры пачалі з сярэдзіны верасня. І да пачатку лістапада ўсе яны былі забраніраваныя. Месцы з'яўляюцца толькі ў выпадку адмовы ад браніравання па ўважлівых прычынах, – кажа начальнік аддзела маркетынгу санаторыя "Прыазёрны" **Сяргей Нехвядовіч**.

На навагоднія святы адпачываць тут будзе больш расіян, чым беларусаў. Тлумачаць, што гэта ў многім абумоўлена тым, што ў беларусаў няма такіх доўгіх навагодніх канікулаў. Бо стандартны навагодні тур у "Прыазёрным" разлічаны на 12 дзён. Хаця кошты для беларусаў меншыя. У навагоднія святы дзень адпачынку з лячэннем абыдзецца для беларуса – ад 400 тысяч беларускіх, для расіяніна – ад 2050 расійскіх рублёў (па курсе – гэта каля 580 тысяч беларускіх).

Дарэчы, у праграме адпачынку ёсць Дзень беларускай культуры, дзе саломапляценню і бісерапляценню будуць вучыць Дзед Мароз са Снягуркай. Беларусы і расіяне могуць паспаборнічаць у спорце: запланаваны міжнародныя калядныя сустрэчы па шашках, шахматах і настольным тэнісе.

І ў іншых здраўніцах навагоднія туры карыстаюцца папулярнасцю. Хто з устаноў прываблівае ніжэйшай цаной, хто – комплексам паслуг.

У Нацыянальным парку "Нарачанскі" могуць прапанаваць адпачыць у гасцінічным комплексе "Нарач" і ў гасцініцы аўтакемпінга.

– Па дадзеных на 19 снежня, яшчэ было некалькі свабодных месцаў, – расказала начальнік аддзела турызму **Людміла Краўчонак**.

Тут навагодні тур сфарміраваны на дзевяць дзён, але можна адпачыць і менш. Каля 70 працэнтаў будзе расіян, астатнія – беларусы, некалькі чалавек з Літвы.

Спытаў **Людмілу Краўчонак**, ці расце колькасць расійскіх турыстаў на Нарачы.

– На мой погляд, у апошнія два-тры гады ідзе пэўная стабілізацыя або нават памяншэнне колькасці расіян. Бо адпачынак у Беларусі становіцца даражэйшы. І калі раней на адпачынак прыязджалі і пенсіянеры (з багацейшых), то цяпер – сярэдні клас.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Меркаванне ў тэму:

Змяншэнне цікавасці да беларускіх здраўніц з боку расіян у кампаніі "ЦэнтрКурорт" у гэтым годзе не адчулі, паведамляе tut.by. Хаця расійскія турфірмы, якія рэалізуюць навагоднія туры ў беларускія здраўніцы, заўважылі адваротнае.

Валерый Кіцель, генеральны дырэктар расійскай турыстычнай кампаніі "КРиСТ" кажа:

– Беларусь сама сабе капае яму тым, што ўсё вышэй падымае кошты. Народ пойдзе ў адкат, мы ўжо цяпер бачым, што ажыятажнага попыту, як было раней, – няма. Мы нарасцілі аб'ёмы ў параўнанні з мінулым годам, але цяпер прадалі толькі леташні аб'ём.

Ён кажа, што калі яны пачыналі раскручваць беларускія здраўніцы, для расійскіх турыстаў яны былі больш таннай альтэрнатывай здраўніцам сярэдняй паласы Расіі і Падмаскоўя. Цяпер цана практычна зраўнялася.



Фота tio.by.

У ваколіцах Нарачы.




| | |
|---|---|
| **1 студзеня** | **– Новы год** |
| **7 студзеня** | **– Каляды праваслаўныя** |
| **8 сакавіка** | **– Міжнародны жаночы дзень** |
| **20 красавіка** | **– Вялікдзень каталіцкі і праваслаўны** |
| **28 красавіка** | **– Дзень нараджэння “Рэгіянальнай газеты”** |
| **29 красавіка** | **– Радаўніца** |
| **1 мая** | **– Дзень працы** |
| **9 мая** | **– Дзень Перамогі** |
| **3 ліпеня** | **– Дзень Незалежнасці** |
| **7 лістапада** | **– Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі** |
| **25 снежня** | **– Каляды каталіцкія** |

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Пн |
| Аўт | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Аўт |
| Ср | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Ср |
| Чц | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | Чц |
| Птц | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Птц |
| Сб | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Сб |
| Ндз | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Ндз |

| | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Пн |
| Аўт | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Аўт |
| Ср | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Ср |
| Чц | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Чц |
| Птц | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Птц |
| Сб | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Сб |
| Ндз | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | Ндз |

| | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | Пн |
| Аўт | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | Аўт |
| Ср | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | Ср |
| Чц | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | Чц |
| Птц | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | Птц |
| Сб | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | Сб |
| Ндз | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | Ндз |

УСХОДНІ ГАРАСКОП-2014



# У Новы год – на наравістым скакуне

**Год Каня ўвойдзе ў сілу 31 студзеня 2014 года і будзе доўжыцца да 18 лютага 2015-га. Прадстаўнікі ўсіх знакаў павінны быць напагатове, бо наравісты чатырохногі апякун можа як капытом стукнуць, так і падкову падарыць на шчасце.**



**ПАЦУК.** Год Каня для вас пройдзе пад знакам любові. Вы зоймеце першае месца сярод вашых прыярытэтаў, адсунуўшы назад нават думкі пра бізнес і грошы. Не ўпускайце магчымасці, якія ідуць вам прама ў рукі. Вы сустрэнеце свой лёс, а можа, зменіце сферу дзейнасці – у любым выпадку гэта падзея, якая кардынальна зменіць ваша жыццё. Добра было б, каб у вас на кухні стаяў кактус.



**БЫК.** Вам трэба сканцэнтравацца на сваім унутраным "я", бо вельмі шмат у вашым жыцці залежыць ад душэўнай гармоніі і асабістых імкненняў. Для таго, каб замацаваць удачу, павесьце ў спальні карціну ці фота з выявай моста, што будзе сімвалізаваць аб тым, як далёка вы зайшлі.



**ТЫГР.** У год Каня вы зможаце праверыць свае ўнутраныя сілы, вас будзе чакаць шмат прыгод і выпрабаванняў. Але вы праявіце вялікую сілу духу і вялікую волю. Многія захочуць быць з вамі ў адной камандзе. Беражыце сябе і сваё здароўе, ешце карысную ежу і будзьце практычныя пры куплянні сур'ёзных пакупак.



**ТРУС (КОТ).** Год Каня – год дамашняй утульнасці. Вас чакае ці купля свайго жылля, ці пераезд на новае месца, ці сур'ёзны рамонт. У любым выпадку усяму гэтаму будзе спадарожнічаць удача. Не нервуйцеся з-за дробных непрыемнасцяў, яны будуць вырашацца самі па сабе. Каб прыцягнуць грошы ў новае жыллё, пастаўце ў гасцінай шкляную фігурку рыбкі.



**ДРАКОН.** 2014 год – год падарожжаў і адкрыццяў – стане самым удачным для таго, каб скінуць з плячэй груз руціны і адправіцца ў падарожжа, няважна, у суседні горад ці іншую краіну. Новыя ўражанні і знаёмства пойдуць вам на карысць і прынясуць выгаду ў далейшым. Павесьце карціну ў офісе ці дома з месцамі, дзе вам хацелася б пабываць, каб візуалізаваць іх.



**ЗМЯЯ.** Той, хто заліваў соду воцатам, ведае, што атрымаецца, калі водная энергетыка народжаных у год Змяі сутыкнецца з вогненным тэмпераментам года Каня. Вас чакае паток пены, шыпенне, пузыркі – і ўсё гэта на працягу 12 месяцаў! Кожны дзень будзьце гатовыя да новых адкрыццяў і здзяйсненняў, бо ўмясціць у фармат аднаго года ўсе тыя падзеі, што падрыхтаваў вам лёс, ну, вельмі складана.



**КОНЬ.** Коні ператворацца ў сапраўдных Пегасаў. Ім будзе здавацца, што ў іх выраслі крылы, што яны здольныя пакарыць любыя вяршыні. І гэта так. Усім будзе спадарожнічаць удача і поспех. Смела распачынайце новыя праекты, у вас усё атрымаецца. Але не чакайце, пакуль удача сама прыйдзе. Каб вас заўважылі, самі хапайце сінюю птушку за хвост.



**КАЗА (АВЕЧКА).** Паспрабуйце тое, аб чым вы даўно марылі, але не знаходзілі часу і рашучасці, каб увасобіць у жыццё: навуковыя распрацоўкі, адпачынак у экзатычнай краіне, нешта іншае. Спазнайце пачуццё пакарэння вяршыні і адчуванне свету ля ног, і гэта дасць вам сілы для здзяйсненняў. Не бойцеся ісці наперад! Вы ведаеце больш, чым думаеце. Даверайце сваёй інтуіцыі, і яна прывядзе вас да залатых гор.



**МАЛПА.** Шмат радасці і добрага настрою прынясе вам год Каня. Вы будзеце атрымліваць асалоду ад жыцця ва ўсіх фарбах, будзеце на піку сваёй папулярнасці. У вас з'явіцца шмат новых сяброў і знаёмых, якія дапамогуць вам падняцца наверх. Вы будзеце патрэбныя любой кампаніі. Адзінае, на што варта звярнуць увагу, то гэта на здароўе. Не спадзявайцеся на авось.



**ПЕВЕНЬ.** У вас будуць усе карты на руках для таго, каб прасунуцца па кар'ернай лесвіцы. Удача на рабоце і ў бізнесе будзе сама ісці да вас у рукі. І не бойцеся нешта мяняць у сваім жыцці, няхай вас не палохаюць перамены ці такія рэчы, як адсутнасць досведу. Смела прымайце прапановы новай работы ці павышэння, бо прыняўшы яго, вы застанецеся ў выйгрышы.



**САБАКА.** Вам дазваляецца рызыкаваць, бо ўдача ходзіць дзесьці побач. А яшчэ вы адкрытыя для атрымання новых ведаў. Так што вазьміцеся за тое, што вам сапраўды цікава. Каб пазбавіцца ад галаўнога болю, галавакружэння, вам неабходна ўпарадкаваць сваё жыццё, знайсці спакой і гармонію, а таксама зрабіць усё для таго, каб настрой і думкі прыйшлі ў раўнавагу.



**СВІННЯ.** Год Каня для вас спрыяльны ва ўсіх адносінах. Вы здольныя прымаць важныя рашэнні і браць на сябе адказнасць. Вы любіце рызыкаваць, але робіце гэта з розумам і правільна, што дазволіць вам сабраць сур'ёзную суму для куплі адной, вельмі дарагой і важнай рэчы, якая крута зменіць ваша будучае жыццё.

Марыя УРБАНОВІЧ.

КОНКУРС

## Разыгралі апошні каляндар "Будзьмы"

**Апошні беларускі каляндар кампаніі "Будзьма", які набыла "РГ", выйграла разам з білетам у тэатр і музычным дыскам маладзечанка Людміла Гіль.**

Друкуем яе адказы на нашы пытанні.

**1. Ці варажылі вы? Распавядзіце сваю гісторыю.**

– Варажыла на каве. Спачатку яе трэба зварыць. Потым, пакуль яна гарачая, зліць усю вадкасць. Пасля тры сталовыя лыжкі гушчы пакласці ў кубак для кавы і накрыць яго сподачкам. Перакуліць яго разам з кубкам, каб да сценак прыстала кава. Паставіць усё на стол. Затым наліць ў сподачак трохі вады і, узяўшы кубак, апускаць у талерачку тры разы. Калі грані посуду датыкаюцца (тройчы) казаць услых: "Пэўнасць, сяброўства і згода". Калі ў апошні раз паднімеце кубак – трэба разглядзець яго знутры.

**Тлумачэнні:**

Жывёлы – весялосць, радасць, поспех, спаўненне жаданняў.

Вежа – вельмі добры знак.

Чалавечы цень – кажа аб прыемным спатканні.

Палацы прадказваюць магчымую беднату, а сціплае жыллё сведчыць аб багацці ў хуткім часе.

Дрэвы – перашкоды на шляху.

Густы лес – нечаканыя сваркі з блізкімі.

Рагатая жывёла – да хуткай дарогі.

Вароты – да вяртання сябра, прыезду гасцей.

Млын кажа аб хлусні ва ўзаемаадносінах з каханым.

Горы або ўцёсы прадказваюць нуду і сум.

**2. Ці назіралі вы чараўніцтва ў звычайным жыцці?**

– У Капылі я бачыла месцы, дзе язычнікі ўшаноўвалі сваіх багоў, прыносілі ім ахвяры. Называюцца гэтыя месцы св练тынямі ці капішчамі. Існаванне свяцілішчаў у раннім сярэднявеччы на Беларусі пацвярджаюць археалагічныя даследаванні. Размяшчаліся яны на ўзвышшах, астравах, на берагах рэк і азёр, сярод балот.

**3. Чаму газета і тэатр не губляюць актуальнасці ў наш час?**

– Мне здаецца, што нам ёсць сэнс павучыцца ў старэйшых спагадлівасці і ўзаемадапамозе, а таксама цярпенню, душэўнасці, дабраце, гатоўнасці прыйсці на дапамогу ў любую хвіліну. На мой погляд, калі чалавек становіцца старэйшым, на жыццё ён глядзіць зусім іншымі вачыма. А галоўнае – у яго ёсць час перагледзець многія жыццёвыя каштоўнасці і сканцэнтравацца на галоўным, што не заўсёды могуць маладыя людзі. Таму, каб пазбегнуць многіх памылак у жыцці, варта прыслухоўвацца да слоў старэйшага пакалення.

У газеце заўсёды шмат навінак пра жыццё. А ў тэатр калі прыходзіш – душа адпачывае.

Аддзел інфармацыі.

ТРАДЫЦЫІ

## Наканаваны мой, або Простыя спосабы варажбы

**Мы падабралі некалькі прыкладаў калядный варажбы, якая і цяперашнім прыгажуням дапаможа вызначыцца з выбарам наканаванага.**

**Варажба на дровах.** Варажба на дровах. Зайсці ў паветку, наўздагад выбраць адно палена, прынесці дамоў і ўважліва разгледзець. Якое будзе палена, такі і будзе будучы муж.

Палена роўнае, з гладкай тонкай карой – муж прыгожы і малады.

Кара тоўстая, шурпатая – муж непрыгожы.

Кара на палене месцамі абадраная або зусім адсутнічае – муж бедны.

Парэпанае палена – муж трапіцца стары, рабы, з фізічным недахопам.

На палене шмат сучкоў – сям'я будзе вялікая: кожны сучок – гэта будучае дзіця.

**Варажба на аладках.** Дзяўчаты раніцай напякуць аладак. Вечарам збяруцца ў чыёйсьці хаце і пачынаюць варажыць. На ўслон кожная з прысутных дзяўчат кладзе "сваю" аладку, а затым у хату прыводзяць сабаку. Чыю аладку ён схопіць першую, тая дзяўчына хутчэй за ўсіх замуж пойдзе.

**Варажба на волаве.** Адна дзяўчына садзіцца на ўслон, другая становіцца за спінай, бярэ расплаўленае волава і вылівае над галавой у міску з вадой. Потым глядзяць, якая выява атрымалася. Калі вянок – замуж пойдзе, калі калыска – дзіця народзіць.

**Варажба па нітцы.** Яна заключаецца ў тым, што дзяўчаты адразаюць ніткі аднолькавай даўжыні і падпальваюць іх. У каго наперад дагарыць нітка, тая першая і замуж пойдзе. Калі нітка патухла адразу і менш за палову згарэла, то замуж не выйдзеш.

Наталля ТУР.





ХАКЕЙ

# Аматарская ліга –

## справа альтруістаў, хворых на хакей

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра тое, што на матчы "Лядовых пінгвінаў" прыходзіць тысяча гледачоў, што аматарская ліга лечыць ад хвароб і спрыяе развіццю бізнесу, – у размове з заснавальнікам аматарскай хакейнай лігі Беларусі Мікалаем Капытовым.**

**– Мікалай, на ваш погляд, ці цікавіць аматарскі хакей шырокае кола гледачоў? Можа, гэта проста цацкі дарослых людзей, якія не нагуляліся ў дзяцінстве?**

– Аматарскі хакей, я ўпэўнены, у нашай краіне цікавы і запатрабаваны. І я адзначыў бы, што ў рэгіёнах яго любяць нават больш, чым у сталіцы, на гульні сваіх каманд прыходзіць вялікая колькасць гледачоў. Яскравы прыклад – леташні фінал у Маладзечне, дзе пахварэць за сваю каманду прыйшло больш за 1000 (!) заўзятараў. Шмат у чым гэта заслуга кіраўніцтва і капітана аматарскай хакейнай каманды "Лядовыя пінгвіны" **Сяргея Траццяка**.

Каманда з Маладзечна велымі добра прыцягвае гледачоў на трыбуны. Арганізацыйны камітэт лігі не раз адзначаў іх працу. Рэклама з афішамі гульняў была па ўсім горадзе, і гэта радуе.

**– Распавядзіце пра аматарскую лігу падрабязней, калі ласка.**

– Аматарская хакейная ліга існуе ў нашай краіне зусім нядаўна. У 2013 годзе яна адсвяткавала толькі свой трэці дзень нараджэння. Тым не менш, за даволі непрацяглы час свайго існавання ліга не толькі прырасла колькасцю камандаў (сёння іх ужо амаль 30), але і змяніла іх падыходы да трэніровачнага працэсу. Калі раней гэта былі трэніроўкі на ўзроўні дваровых камандаў, то на сённяшні дзень шматлікія каманды рыхтуюцца да гульняў з трэнерамі і павышаюць свой уласны ўзровень майстэрства, займаючыся індывідуальна.

Аматарская хакейная ліга – гэта арганізацыя, якая дынамічна развіваецца, аб'ядноўвае энтузіястаў-аматараў хакея.

**– Скажыце, а каманда "Лядовыя пінгвіны" – адзіныя ўдзельнікі лігі з Маладзечна? Яны прымаюць удзел з першага чэмпіянату?**

– Не, у першым чэмпіянаце ўдзельнічалі толькі шэсць камандаў: пяць са сталіцы і адна з Баранавічаў. "Пінгвіны" пакуль адзіныя прадстаўнікі горада на матчах аматарскай хакейнай лігі.

Ідэя аб'яднаць аматарскія калектывы ў лігу належыць мне, мяне падтрымалі такія ж апантаныя хакеем людзі, як і я. Але, у асноўным, падтрыманне існавання лігі – гэта справа альтруістаў, якая развіваецца на дабрачынных пачатках. Што датычыцца мяне, то я хакеем прафесійна не займаўся ніколі. Толькі восем гадоў таму ўпершыню выйшаў на лёд і тут застаўся, хочацца думаць, назаўжды.



Фота забяспечана Мікалаем КАПЫТОВЫМ.

Хакеісты Мікалай Капытоў і Таццяна Шаталава.

### Аматарская ліга ратуе ад штодзённай руціны

**– Не шкадуеце, што ніколі не будзеце гуляць у прафесійным спорце?**

–Аматарская ліга мяне задавальняе нават больш. Чым? Напэўна, тым, што аб'ядноўвае людзей розных прафесій і сацыяльных статусаў. Дазваляе надаваць час свайму здароўю, пры гэтым мець зносіны паміж рознымі людзьмі і наладжваць кантакты, якія часта прыводзяць да рэалізацыі сумесных планаў па-за лядовай пляцоўкай. У той жа час, аматарская ліга – гэта месца, дзе непрафесійныя аматары хакея могуць пераключыцца з паўсядзённай руціны банкаўскага работніка або таксіста на гульню, выкласціся фізічна, "адпачыць галавой" і набрацца сіл для далейшых перамог у спорце і бізнесе.

У аматарскім хакеі выпадковых людзей няма. Кожны, хто прыходзіць сюды, робіць свядомы выбар на карысць гэтага, скажам прама, нятаннага віду спорту. Напрыклад, калі ламаецца клюшка, новая будзе каштаваць каля 120 даляраў. А бывае, што за тыдзень ламаецца і не адна.

**– Ці можаце ўспомніць самы незвычайны для вас матч, у якім гулялі ці які бачылі?**

– Так, магу. Гэта леташні таварыскі матч фанатаў "Дынама-Мінск" супраць прафесійных гульцоў каманды "Дынама-Мінск". Лік матча быў 12:9 на карысць фанатаў "Дынама-Мінск". У тым матчы я змог забіць адзін гол у вароты "зуброў", якія тады абараняў **Уладзімір Дзянісаў**. Павіншаваць мяне з закінутай шайбай падняласяўся лаўка запасных гульцоў. За нас тады гулялі **Цім Стэплтан, Тэему Лайне, Джэф Плат і Яне Ніскала.** Не апошнія імёны для тых, хто цікавіцца хакеем. Эмоцыі той таварыскай сустрэчы застануцца ў мяне на ўсё жыццё!

**– А як вы ставіцеся да жаночага хакея?**

– Жаночы хакей глядзець прыемна і эмацыйна. Усё, што робіць дзяўчат здаровымі, я ўспрымаю вельмі добра!

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

### Каманда з Мядзельшчыны ўпершыню ўдзельнічала ў турніры па карфболе

**МЯДЗЕЛ.** "РГ" паведамляла, што зусім нядаўна у Мядзельскім раёне пачалі развіваць такую гульню як карфбол. А 22 снежня каманда з Мядзельшчыны прыняла ўдзел у пятым Кубку Рэспублікі Беларусь па карфболе U16 Talent Belarus Cup 2013. Удзельнічалі ў ім шэсць каманд, у тым ліку дзве каманды-дэбютанткі, паведамляе korfball.by.

Прадстаўляла Мядзельшчыну каманда Свірскай сярэдняй школы. Яна заняла пятае месца. Саступіла больш вопытным камандам, але ў апошняй сустрэчы ўпэўнена, з лікам 13:3, абыграла іншага дэбютанта – каманду з Мінска.

### "Юніёр" перамог у турніры

**ВІЛЕЙКА.** Другі паўфінал штогадовага турніру па міні-футболе адбыўся 20 снежня. Каманда "Першы Беларускі" выйграла ў "Буддэталяў" з лікам 6:3.

У той жа дзень вызначыўся ўладальнік трэцяга месца. Заваявалі яго "Буддэталі", якія перамаглі "Шылавічы" з лікам 6:5.

А 22 снежня адбыўся фінал. Першае месца аспрэчвалі "Юніёр" і "Першы Беларускі". "Юніёр" выйграў 13:7. Праўда, "Першаму Беларускаму" давялося гуляць у аслабленым складзе, падкрэсліў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

Лепшым бамбардзірам турніру стаў **Аляксандр Альховік з** "Першага Беларускага". Зборная ветэранаў Вілейкі заснавала прыз імя Аляксандра Уліцкага лепшаму варатару. Атрымаў яго **Андрэй Шабан** з "Буддэталяў".

### "Зубраня" і "Паставы" грамяць сапернікаў

**МЯДЗЕЛ.** Гульні трэцяга тура чэмпіянату раёна па міні-футболе прайшлі 17 і 21 снежня. У аўторак супрацоўнікі РАУС абыгралі "Юніёр" 5:1, прадстаўнікі ЖКГ прайгралі камандзе аддзела адукацыі, спорту і турызму (лік 0:6), гульцы з Пастаў разграмілі каманду райваенкамата 14:2.

Гульні ў суботу прынеслі такія вынікі: Нарацкі савет – СДЮШАР 1:7, Крывіцкі савет – прадпрыемства меліярацыйных сістэм 7:5, райаддзел на надзвычайных сітуацыях – Мядзел 1:7, НДЦ "Зубраня" – індывідуальныя прадпрымальнікі 11:1.

### Афіцэр перамог у спаборніцтвах па стральбе

**МЯДЗЕЛ.** У ціры сярэдняй школы №2 райцэнтра 21 снежня прайшоў чэмпіянат раёна па стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі. Самым трапным аказаўся **Яўген Яскавец** з райваенкамата. Ён выбіў 43 ачкі з 50 магчымых.

### Пройдзе турнір па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 29 снежня пройдзе турнір па міні-футболе сярод ветэранаў (гульцы, старэйшыя за 45 год). Збіраюцца ўдзел у ім прыняць удзел чатыры каманды з розных куткоў раёна, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

Спартыўныя навіны штодзень на сайце




# "Пінгвіны" бываюць мацнейшымі за "Акул"

**МАЛАДЗЕЧНА. У прыродзе так не бывае, але ў хакеі гэта адбылося ў пятніцу, 20 снежня, калі маладзечанскія "Лядовыя пінгвіны" абыгралі мінскую каманду Sharks з лікам 9:3**

Гульня адбылася ў спартыўна-забаўляльным комплексе. І пачалася яна з казусу: каманды лёд арандавалі, а пра гледачоў забыліся. Усе ўваходы на глядацкія трыбуны былі зачыненыя.

Але тых, хто рэальна прыйшоў падтрымаць каманды, гэта акалічнасць не спыніла. І хто прайшоў на трыбуны, ні разу пра гэта не пашкадаваў. Гульня была дынамічнай і напружанай.

"Пінгвіны", відаць, добра адчувалі сябе на дамашняй арэне, і ў першым перыядзе на тры шайбы апярэджвалі гасцей з Мінска. Перыяд скончыўся з лікам 4:1 на карысць маладзечанцаў.

Другі перыяд павялічыў разрыў у ліку яшчэ на дзве шайбы.

У трэцім перыядзе Sharks адыгралі дзве шайбы, але спартыўная фартуна "Пінгвінам" у гэты дзень спрыяла болей. Фінальны лік матча 9:3.

Матч быў цікавым і не зусім звычайным яшчэ таму, што за каманду Sharks гулялі дзве дзяўчыны, прадстаўніцы славутых "Пантэраў".

Хакеіст **Вячаслаў Арлоўскі** пракаментаваў гэта так:

– Удзел дзяўчат у гульні, наколькі я ведаю, не пярэчыць правілам. Яны ж самі хочуць гуляць, каб не губляць спартыўную форму. Што ж рабіць, калі каманда "Пантэры" перастала існаваць, а гуляць хочацца? Да таго ж, дзяўчаты гуляюць прафесійна, не ўступаюць ні ў чым хакеістам-мужчынам.

Лепшымі гульцамі матча ў камандзе Sharks і былі названыя дзяўчатыхакеісткі **Аляксандра Каваленка і Наталля Аляксеенка.**

У "Лядовых пінгвінах" лепшымі сталі **Дзмітры Шэк, Павел Філістовіч.**

Наступная гульня адбудзецца 27 снежня ў спартыўна-забаўляльным комплексе. Супрацьстаяць "Лядовым пінгвінам" будзе сталічная каманда "Спарта-2"

**Наталля ТУР.**




Фота Наталлі ТУР.

Момант з гульні. На лёдзе сталічная каманда Sharks.




грамадства

## На 150 метраў дарогі – 193 яміны

Аплата газу



Фота Настассі РОЎДЫ.

19 ліпеня "Рэгіянальная газета"надрукавала справаздачу з акцыі, якую арганізавала. Жыхары дамоў каля нашай рэдакцыі шмат разоў звярталіся з просьбай дапамагчы ў рамонце дарогі. Людзі пагадзіліся сфатаграфавацца з плакатамі з просьбай адрамантаваць дарогу. Ужо восенню "Камунальнік" здаў першую чаргу рамонту. У наступным годзе дарожнікі абяцаюць закончыць працу. Жыхары вельмі ўдзячныя, што цяпер ім не трэба баяцца паламаць ногі на гэтай дарозе.

■ РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

"**Ёлкі 3**" (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)

27 снежня – 21.00
28 снежня – 16.00, 21.00
29 снежня – 19.00
30 снежня – 21.00
31 снежня – 19.30
1 студзеня – 19.00, 21.00
2 студзеня – 16.30, 21.00

Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Пустка Смаўга**", 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)

27, 28 снежня – 18.00
29 снежня – 16.00
30 снежня – 18.00
31 снежня – 14.00
1 студзеня – 16.00
2 студзеня – 13.30

Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Халоднае сэрца**", 3D (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)

27 снежня – 15.30
28 снежня – 13.30
29 снежня – 14.00, 21.00
30 снежня – 15.30
31 снежня – 17.00
1 студзеня – 13.30
2 студзеня – 18.30

Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік "**Нястрымныя**" (ЗША, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам, які за 16 год)

27-29 снежня – 21.30
31 снежня – 18.00
1 студзеня – 21.30
2 студзеня – 19.30

Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя "**Ржэўскі супраць Напалеона**" (Расія, 2012, дазволены для прагляду гледачам, якім за 16 год)

27-29 снежня – 19.30
30 снежня – 21.30

Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Лімб**" (Канада, Францыя, 2013, дазволены для прагляду гледачам, якім за 16 год)

1 студзеня – 19.30
2 студзеня – 21.30

Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама "**Зачараваная Эла**" (ЗША, 2004, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)

2 студзеня – 15.00

Кошт білета – 35 000 рублёў.

*ПАДЧАС ЗІМОВЫХ КАНІКУЛАЎ:*

Анімацыйныя прыгоды "**Неверагодныя прыгоды ката**" (Францыя, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)

27-30 снежня – 15.00
31 снежня, 1, 2 студзеня – 13.00

Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыя "**Альфа і Амега: Ікластая братва**" (ЗША, 2010, без узроставых абмежаванняў)

28, 29 снежня – 13.00

Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыя "**Снежная каралева**" (Расія, 2012, без узроставых абмежаванняў)

31 снежня, 1 снежня – 15.00

Кошт білета – 15 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

Кожны дзень да 30 снежня ў 10:30, 13:00 і 15:30 – дзіцячы мюзікл для ўсёй сям'і "**Цётухна Прастуда і Новы год**".

### Рэпертуар на студзень 2014 года

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Цётухна Прастуда і Новы год**" (казка-мюзікл), Наталля Марчук

3 пятніца 11.00,
15 серада 11.30,
24 пятніца 12.40

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (сур'ёзная камедыя), Святлана Бартохава

14 аўторак 19.00

ТВОРЧЫ ВЕЧАР ВЯДУЧАГА МАЙСТРА СЦЭНЫ СЯРГЕЯ КАРЗЕЯ "**Зноў канферансье?!.. ці Сон у зімнюю ноч**"

18 субота 17.00

"**На другі дзень Сёмухі**" (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), Юры Вута

21 аўторак 19.00

"**Верная жонка**" (камедыя ў 2-х дзеях), Сомерсет Моэм

22 серада 19.00

"**Любоў па-італьянску**" (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э.дэ Філіпа "Цыліндр"), Эдуарда дэ Філіпа

23 чацвер 19.00

"**Бывай, канферансье!**" (спектакль-канцэрт), Рыгор Горын

25 субота 17.00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні

29 серада 19.00

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), Святлана Бартохава

30 чацвер 19.00

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях) Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі

31 пятніца 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

## Некаторыя моманты з таго, чым запомніўся 2013 год

**2013 год для кожнага з нас быў багаты на розныя падзеі. У гэтым артыкуле мы змясцілі некаторыя моманты з таго, чым жыла, чым дыхала "Рэгіянальная газета". Што нам балела і не пакінула абыякавымі.**

Сёлета мы правялі першую анлайн-трансляцыю, якую ладзілі са святочнага, першамайскага, парку Перамогі.

Вопыт правядзення анлайн-эфіраў аказаўся заразлівым, і ў маі 2013 года мы зладзілі анлайн "круглы стол" па маладзечанскім футболе.

Мы разам з нашымі чытачамі і гледачамі, разам з футбалістамі і людзьмі, якіх клапоціць лёс футбола, у рэдакцыі абмеркавалі перспектывы развіцця каманды, фінансаванне і шмат розных тэм. У канцы ж сезона, мяркуем, многія памятаюць яшчэ адну футбольную канферэнцыю, тую, дзе дырэктар каманды адстойваў рускую мову на эмблеме клуба.

Зладзілі сёлета акцыю, якая паспрыяла рамонту дарогі каля рэдакцыі.

"Па гэтай дарозе штодзень праходзяць і праязджаюць сотні людзей: на роварах, з каляскай, з кійком, на машыне ці проста так. У кожнага свае справы, але ёсць і тая, што аб'ядноўвае ўсіх: акцыя "Зрабіце нам дарогу", – пісала "Рэгіянальная газета" 19 ліпеня.

Культурныя падзеі з жыцця нашага горада таксама не абмінулі старонкі "Рэгіянальнай газеты": "Рыгор Сарока паставіў другі помнік Агінскаму", "Камеды" – 20 год.

На жаль, 2013 год не абышоўся без страт. У 2013 годзе пайшлі з жыцця мастак **Кастусь Харашэвіч** і гісторык **Міхась Чарняўскі**.

Год быў насычаны падзеямі рознымі, пра якія мы праўдзіва імкнуліся расказваць вам, нашы чытачы. Будзьце з намі ў 2014 годзе, разам мы яго зробім непаўторным і незабыўным!

**Рэдакцыя "РГ".**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

Кожны дзень па 30 снежня ў 12.00 будуць праходзіць навагоднія ранішнікі "**Навагодні хітрыкі Карлсана, альбо Спакой, толькі спакой**".

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

■ **ГАРАСКОП (27 СНЕЖНЯ – 2 СТУДЗЕНЯ)**



**Авен.** У размове з кім бы там ні было знаходзьце дыпламатычны падыход, і тады вы зможаце пазбегнуць непрыемнасцяў. З Новым годам Вас! З новым шчасцем!



**Цялец.** Кажуць, як сустрэнеш Новы год, так яго і правядзеш. Так што бярыце са старога года з сабой усмешку і добры настрой, і вы на цэлы год будзеце ва ўзбраенні. З Новым годам Вас!



**Блізняты.** Пасяліце ў сваім сэрцы любоў, беражыце яе, і яна застанецца з вамі на ўсё жыццё. Шчасця Вам у Новым годзе!



**Рак.** Пераднавагоднія клопаты і сустрэча Новага года – хіба гэта не нагода для добрага настрою. А казку стварайце самі. З Новым годам Вас, з новым шчасцем!



**Леў.** Жыццё – гэта той жа спектакль, у якім кожны іграе сваю ролю. Жывіце так, як быццам вы на сцэне, галоўныя, а за добра выкананую ролю атрымлівaеце апладысменты мільёнаў гледачоў. З Новым годам Вас!

**Дзева.** Рыхтуйцеся да святаў, святкуйце і адчувайце лёгкасць у душы і ў целе. Вы, як тая птушка, якая вось-вось падымецца пад аблокі. З Новым годам Вас!

**Шалі.** Адчуйце сябе каханай, шчаслівай і на мільён баксаў. Пабольш уяўляйце, візуалізуйце тое, што хочаце мець, і ў вас усё атрымаецца. Шчасця Вам у Новым годзе.



**Скарпіён.** Адчуйце радасць новага года, купіце што-небудзь для сябе, для дома, навядзіце ўсюды парадак, і вы апынецеся ў чароўным месцы. З радасцю сустракайце кожны новы дзень. З Новым годам Вас!



**Стралец.** Адчуйце сябе капітанам сапраўднага карабля. Трымайце курс туды, дзе вы будзеце адчуваць сябе лёгка і спакойна. Шчасця Вам у Новым годзе!



**Казярог.** Сустракайце свята са сваімі самымі блізкімі людзьмі. Родныя душы спрыяльна ўплываюць на чалавека і робяць яго больш моцным.



**Вадалей.** Прымерайце на сябе ролю факіра ў навагоднюю ноч, яна будзе вам дарэчы. З Новым годам Вас!



**Рыбы.** Будзьце смялей, не бойцеся рызыкаваць і выказваць свае думкі. Не спыняйцеся на дасягнутых выніках, заўсёды ідзіце наперад, разлічвайце на дапамогу сяброў. Шчасця Вам у Новым годзе!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**
erh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

ОАО **«Белцветмет»** закупает у населения
- **лом цветных металлов** и
- **отработанные аккумуляторы**

ПО ВЫСОКИМ ЦЕНАМ
**г. Молодечно, ул. Железнодорожная, 57.** Т. **(8-029) 393-66-05**
УНП 100088666 Лиц.№17/140
выд.Министерством промышленности РБ от 20.02.2012 по 20.02.2017 г.

## НАДВОР'Е

**28 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +4 | | +5 / +6 | | +3 / +3 | | +4 / +4 | |
| | 740 | ↖ 4 | 742 | ↖ 4 | 741 | ↑ 5 | 749 | ↘ 1 |
| Вільня | +3 / +5 | | +3 / +6 | | +4 / +5 | | +5 / +4 | |
| | 746 | ↑ 5 | 748 | ↑ 6 | 747 | ↑ 6 | 757 | → 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.33
Захад 16.55
Даўжыня дня 7.22

Усход 4.22
Захад 13.56
Квадра 4




## ПРЫКМЕТЫ

- Калі дым без ветру сцелецца па зямлі – чакай снегу.
- Сініцы раніцай падымуць піск – ноччу будзе мароз.
- У беларускаў-каталікоў багатая Куцця (31 снежня). На Сільвестраву ноч дзяўчаты варожаць.

**ОТОПЛЕНИЕ - ВОДОСНАБЖЕНИЕ**
- КОТЛЫ ИЗ ИТАЛИИ
- РАДИАТОРЫ
- ВОДОНАГРЕВАТЕЛИ
- ЭЛЕКТРООБОГРЕВАТЕЛИ
- ТРУБЫ, ФИТИНГИ, КРАНЫ
- БАКИ РАСШИРИТЕЛЬНЫЕ
- СЧЕТЧИКИ ГАЗА и ВОДЫ

Рассрочка 0%
Частное предприятие "Теплое Место" УНП 191283857
Фирменный магазин IMMERGAS
8 029 1228737
8 029 1356221
Молодечно, ул. Мира, 10А

## Чытайце праз тыдзень:

- **У першым нумары новага года чытайце пра выхад першай кнігі рукапісаў Рыгора Барадуліна "Лепей". А таксама, як з-за Барадуліна чуць не згарэлі на кухні маладзечанца блінцы.**

## Што з сабой прынясе рэдакцыя газеты ў 2014 годзе

Рэгіянальная газета. Rh.by

З новага года "Рэгіянальная газета" зменіць лагатып. Першы нумар у 2014 годзе выйдзе ўжо з абноўленым дызайнам.

Падпісчыкаў жа ў першым нумары надыходзячага года чакае глянцавы каляндар, спецыяльна распрацаваны газетай. Яго ўкладуць у газету.

***Рэдакцыя жадае ўсім шчасця ў новым годзе!***

КАМПАНІЯ МЕБЕЛЬСТАР З **ВІЛЕЙКІ** ПРАПАНУЕ
*МЭБЛЮ на любы ГУСТ*
*АД КУХНЯЎ і ШАФАЎ-КУПЭ да ОФІСНАЙ*
**Нізкія цэны. Растэрміноўка без %%**
*Выезд дызайнера, дастаўка, зборка, гарантыя якасці*
*МАЛАДЗЕЧНА, вул. Будаўнікоў, 7, тэл. (8-0176) 75-73-82*
*ВІЛЕЙКА, вул. Піянерская, 47,*
*тэл. (8-01771) 5-34-30; т/ф 5-63-82*
ТАА «МЕБЕЛЬСТАР». УНП 690249732

«Небесный дракон»
Территория комфорта, красоты и здоровья
*Поздравляем с Рождеством и Новым годом!*
*Прекрасный подарок вашим друзьям и близким – абонементы, подарочные сертификаты*
Китайские SPA-процедуры
ШИРОКИЙ СПЕКТР профессиональных услуг по уникальным методикам:
✧ уход за лицом и телом
✧ парафинотерапия
✧ депиляция
и многое другое
*Наши цены и бонусы приятно вас удивят*
ЧУП "Магия молодости". УНП 691393019
Предварительная запись по телефонам:
МТС (029) 761-17-62, Велком (044) 5717420
Молодечно, Ледовый дворец (вход со стороны сауны)

НОВЫ ГОД

## Якая праграма чакае жыхароў у навагоднюю ноч

**Колькі будуць цягнуцца святочныя мерапрыемствы і калі прагрымяць салюты ў ноч з 31 на 1 студзеня.**

**МАЛАДЗЕЧНА**. Святкаванне Новага года на Цэнтральнай плошчы пачнецца ў 01.00. Навагодняя забаўляльная праграма пройдзе пад назвай "Навагодні цуд у навагоднюю ноч".

Акрамя канцэртнай праграмы і віншаванняў ад Дзеда Мароза і Снягурачкі, усіх тых, хто прыйдзе святкаваць Новы год на плошчу, чакае шмат сюрпрызаў і конкурсаў.

А другой гадзіне ночы тэатралізаванае прадстаўленне перапыніць святочны, яскравы феерверк. Затым свята прадоўжыцца дыскатэкай да 04.00.

Яшчэ адна святочная пляцоўка будзе арганізаваная на Старым Месце. Маладзечанцаў там будзе весяліць народны тэатр гумару "Тары-бары". Свята на Старым Месце будзе ладзіцца з 01.00 да 02.30, – паведаміла "Рэгіянальнай газеце" загадчыца сектара культуры аддзела ідэалогіі Маладзечанскага райвыканкама **Тамара Дудзіч**.

**СМАРГОНЬ.** У Смаргоні шоу-праграма з дыскатэкай у навагоднюю ноч пачнецца ў 01.00 і скончыцца ў 03.00. Святочны салют прагрыміць у 02.00. Пра гэта распавяла намеснік начальніка ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама **Таццяна Ражава**.

**ВАЛОЖЫН.** Навагодняя праграма пачнецца ў Валожыне ў 01.30 на плошчы Свабоды. Першы блок – віншавальны, яго распачнуць Дзед Мароз і Снягурачка. Віншаванні будуць чаргавацца з канцэртнымі нумарамі ў выкананні артыстаў з Валожына і не толькі. У 02.00 пачнецца святочная дыскатэка. Свята будзе доўжыцца да 04.00. Пра гэта распавяла дырэктар Валожынскага раённага цэнтра культуры **Алена Конаўка**.

**ВІЛЕЙКА.** У навагоднюю ноч на цэнтральнай плошчы горада ў 01.30 пачнецца шоу "Аднойчы пад Новы год". Выступяць салісты і калектывы Палаца культуры. Сярод іх узорная эстрадная студыя "Экспромт", народны вакальны гурт "Суквеццe", фольк-медыя гурт "Спас". Пройдуць караоке-шоу, разнастайныя конкурсы – у тым ліку, на лепшае віншаванне з Новым годам. У гадзіну ночы ў Палацы культуры пачнецца навагодняя дыскатэка "Не сакрэт".

**АСТРАВЕЦ.** Святкаванне Новага года пачнецца ў 01.00. Дзед Мароз і Снягурачка выйдуць на сцэну ля галоўнай ёлкі горада, каб павіншаваць гараджан са святам. Затым да 03.00 святочны настрой астраўчанам будуць дарыць казачныя героі і творчыя калектывы горада.

– Навагодняй ноччу ніхто не замерзне, гэта факт. Таму што аж да 07.00 на плошчы Леніна будзе ісці навагодняя дыскатэка. Шмат конкурсаў, гульняў, спаборніцтваў не дадуць ні засумаваць, ні замерзнуць, – гаворыць мастацкі кіраўнік Астравецкага Дома культуры **Анастасія Ляховіч**.

**АШМЯНЫ.** Навагодняя праграма пачнецца ў 01.00 і будзе доўжыцца да 04.00. Жыхароў і гасцей горада павіншуюць Дзед Мароз і Снягурачка. Даручы, тэатральна-музычнае прадстаўленне мае назву "Навагодняя забастоўка". Свята пройдзе на плошчы Дома Саветаў ля райвыканкама. Пра гэта распавяла намеснік дырэктара Ашмянскага Дома культуры **Марта Ланеўская**.

**МЯДЗЕЛ.** Народныя гулянні на плошчы Шаранговіча пачнуцца ў 01.00 1 студзеня. Ля ёлкі пройдзе навагодняя дыскатэка з Дзедам Марозам і Снягурачкай. Дыскатэка адбудзецца і ў гарадскім Доме культуры. Пачатак у 01.00.

**Наталля ТУР,**
**Настасся РОЎДА,**
**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Шэсце Дзядоў Марозаў па рэгіёне

**"Рэгіянальная газета" даведалася, дзе і калі пройдуць святочныя парады Дзядоў Марозаў.**

**СМАРГОНЬ.** Сёлета пройдзе не толькі парад Дзядоў Марозаў, але і конкурс на лепшага з іх. Парад на вуліцы Савецкай пачнецца ў 11.30, а конкурс – у 12.00 каля галоўнай ёлкі на цэнтральнай плошчы.

**ВАЛОЖЫН.** Шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурачак адбудзецца 30 снежня. Плануецца, што ўдзел у мерапрыемстве возьмуць усе арганізацыі і прадпрыемствы.

Кожны Дзед Мароз і Снягурачка павінны будуць падрыхтаваць святочную праграму на 10 хвілін. З гэтай праграмай выступіць перад жыхарамі горада. Што гэта будзе за праграма: конкурсы ці віншаванні, песні ці карагоды – сюрпрыз. Свята пачнецца ў 11.00.

**ВІЛЕЙКА.** На цэнтральнай плошчы горада 29 снежня адбудзецца штогадовы злёт Дзядоў Марозаў і Снягурачак. Пачатак намечаны на 14.00.

**АШМЯНЫ.** 29 снежня на плошчы адбудзецца навагодні карнавал. Тэатралізаванае, касцюміраванае шоу з пераапрананнямі, конкурсамі, гульнямі і, вядома, прызамі чакае ўсіх, хто прыйдзе на плошчу ў 13.00.

У Маладзечне і Астраўцы парада не будзе. У Мядзеле ўжо прайшоў.

**Наталля ТУР,**
**Настасся РОЎДА,**
**Алесь ВЫСОЦКІ.**

Магазин **"БАГЕТ"**
*всё для рукоделия*
**Мулине:**
- MADEIRA 10м-6000 руб.
- КИРОВСКИЕ 20м-3000руб.

**Пряжа: (35 видов)**
- Слоним 50г-7900руб.
- YarnArt Jeans 50г-13900руб.
- ANGORA Ran 100г-25900руб.
- ALIZE Midi 100г-21500руб.

г.Молодечно ул.В.Гостинец104а
(напротив ТАЦ "МОДУЛЬ")
8-0176-74-54-78

**Частный ветеринарный кабинет**
*Время работы с 8.30 до 20.30, обед с 13.00 до 14.00, без выходных*
- **Все виды ветеринарных услуг** (консультации, профилактика, лечение)
- **Корма, профилактические и гигиенические товары**
- **Гигиенические стрижки** собак, кошек

Т. **(8-0176) 73-86-38**-т/факс, **(8-044) 541-78-32**-администратор
**e-mail: diamant-germes@tut.by**
**222310, г.Молодечно, ул.Либаво-Роменская, 153-Б**
Лиц.№0212203 от 14.02.2011, выд. Мин. с/х и прод. РБ до 14.02.2016 ЧУП «Диамант-Гермес»
УНН 691291143

Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 52 (974) 27.12.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 1195. Падпісана ў друк у 10.00 26.12.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.